PL ISSN 0546—1960
Nr INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 25 (1832) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 23 ЧЭРВЕНЯ 1991 г. ЦАНА 800 зл.



Прэзідэнтам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў выбраны Адам Мальдзіс (першы злева).

Ідэя стварыць міжнародную арганізацыю беларусістаў узнікла ў чэрвені мінулага года ў Варшаве на канферэнцыі, прысвечанай 500-годдзю з дня нараджэння Францішка Скарыны. Тады 53 вучоныя, спецыялісты ў галіне беларускага мовазнаўства, літаратуразнаўства, гісторыі, этнаграфіі, фальклору і мастацтвазнаўства прынялі дэкларацыю аб стварэнні такога згуртавання (дэкларацыю надрукавала „Ніва" ад 1.07.1990 г.), у якой прапанавалася правесці ў 1991 г. устаноўчы з'езд у Мінску. З гэтага моманту пачаліся арганізацыйныя дзеянні для ажыццяўлення гэтай ідэі. На працягу некалькіх месяцаў узніклі шэсць асацыяцый беларусістаў у розных краінах, якія вылучылі 156 дэлегатаў на ўстаноўчы кангрэс.

І вось 25 мая ў Доме літаратара ў Мінску сабраліся беларусісты ўсяго свету, каб стварыць сваю асацыяцыю, якая будзе спрыяць даследаванням па беларусістыцы, весці каардынацыю гэтых прац, абмен навуковай інфармацыяй, спрыяць падрыхтоўцы даследчыкаў-спецыялістаў. Кангрэс пачаўся з міні-канцэрта Акадэмічнай харавой капэлы, якая праспявала тры патрыятычна-рэлігійныя песні: „О, Беларусь, мая шыпшына", „Хрыстос уваскрос" і „Магутны Божа". Затым старшыня арганізацыйнага камітэта Адам Мальдзіс афіцыйна адкрыў кангрэс і даў інфармацыю аб ходзе падрыхтоўкі да „першага ад часоў Скарыны беларускага згуртавання". Пленарнае пасяджэнне пачалося ад прывітанняў афіцыйных асоб. Са словам да сяброў Беларусі звярнуўся намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч, які сказаў, што „не ведаў, што па-за межамі Беларусі паважаюць знявечаную на Радзіме мову і забруджаную культуру". У далейшым выступілі: прэзідэнт АН БССР Уладзімір Платонаў, народны пісьменнік БССР Васіль Быкаў, міністр замежных спраў Пётр Краўчанка. Прывітанні ад згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына" перадаў Яўген Лецка, а ад Беларускага ПЭН-цэнтра — Рыгор Барадулін.



## МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС БЕЛАРУСІСТАЎ

Мерытарычную частку кангрэса пачаў старшыня Англа-беларускага таварыства Джэймс Дынглі дакладам „Замежны погляд на сучасную беларусістыку", у якім звярнуў увагу на тое, што з мінулым у гісторыі культуры трэба разабрацца, а не замоўчваць невыгодныя з палітычных прычын факты. Аб стане нацыянальнай свядомасці, кандыцыі беларускага народа гаварыў пісьменнік Ніл Гілевіч, а даклад аб сучаснай польскай беларусістыцы прачытаў загадчык кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта дац. Аляксандр Баршчэўскі. Каб не надакучыць чытачам пералікам дакладчыкаў, успомню толькі, што на пленарным пасяджэнні, якое цягнулася да абеда, выступілі вучоныя з Расіі, Украіны, Беларусі, ЗША, Швейцарыі і Балгарыі. На тым жа пасяджэнні прывіталі ўдзельнікаў кангрэса прадстаўнікі духавенства: пасланнік мітрапаліта Філарэта а. Георгій Латушка і каталіцкі святар а. Ян Матусевіч.

Далей праца вялася ў трох секцыях: гісторыя і культура, мовазнаўства, літаратура, мастацкі пераклад і фальклор. Я прымаў удзел у працы секцыі па мовазнаўству і прадставіў паведамленне „Мовазнаўчыя праблемы на старонках „Нівы" і выданняў БГКТ". На працягу двух дзён на пасяджэнні гэтай секцыі выступілі 34 даследчыкі, якія парушалі справы, дагэтуль нераспрацаваныя ў беларускім мовазнаўстве. Маю ўвагу прыцягнулі пытанні беларускай мовы на Літве, у пэўным сэнсе падобныя на нашыя праблемы. Валерыюс Чэкмонас з Віленскага універсітэта гаварыў, што ў свядомасці насельніцтва беларускай мовы на Літве няма, ёсць толькі простая мова, а беларускамоўнае насельніцтва мае польскую нацыянальную свядомасць. Мікалай Савіч з Інстытута літоўскай мовы Акадэміі навук Літвы ў сваім выступленні звярнуў увагу на тое, што мясцовыя беларускамоўныя жыхары з прычыны каталіцкага веравызнання запісаны палякамі. У штодзённым жыцці карыстаюцца яны „простай" мовай. Для іх польская мова — гэта мова школы і касцёла, мова рэпрэзентатыўная, на якой размаўляецца з чужымі. Амаль на ўсёй тэрыторыі, імі населенай, ужыва-

(Працяг на стар. 4)

## У СТЫХІІ РОДНАЙ КУЛЬТУРЫ

Нарадзіўся Баляслаў Манкевіч 15 чэрвеня 1905 г. у вёсцы Каролін, што ў пяці кіламетрах ад Рубяжэвіч і недзе з 15 км ад Койданава (Дзяржынска) у беларускай каталіцкай сям'і. Існаванне сярод этнічна беларускага насельніцтва архаічнай свядомасці, паводле якой каталіцызм з'яўляецца нібыта выключна „польскай верай", спрыяла паралельна ягонаму зацікаўленню і польскай культурай. Гэтым трэба тлумачыць той факт, што пасля заканчэння сямігадовай пачатковай школы ў Койданаве, у якой вучыўся ён з 1916 г. і якая была польскай, малады Баляслаў у 1926 г. паступіў на двухгадовыя настаўніцкія курсы пры Польскай тэхніцы педагагічнай у Мінску. Быў гэта час гэтак званай беларусізацыі. У сталіцы тадышняй Беларускай ССР на беларускай мове выходзіла штодзённая грамадска-палітычная газета, адказным рэдактарам якой у свой час быў наш зямляк з Такароў праф. Усевалад Ігнатоўскі, „Савецкая Беларусь" (1920—1933). У 1927 г. грамадска-палітычная газета „Звезда", — як кажа Баляслаў Манкевіч, — зрабілася „Зьвяздою". Выходзілі і польскія перыядычныя выданні, між іншым, „Orka" і „Gwiazda Młodzieży". На польскіх настаўніцкіх курсах 1926—1928 г.г. біялогія была па-беларуску, расійскай мовы не было, толькі лекцыі па філасофіі чыталіся па-руску. Працавалі настаўнікам, аднак, Баляславу Манкевічу не давялося. Стаў ён, як гаворыць, ахвярай барацьбы з алкагалізмам. Пасквіль, напісаны ім для школьнай сценгазеты на хлопцаў, якія шмат папівалі, хаця былі ў ім зменены імёны і прозвішчы, стаў непасрэднай прычынай помсты з іх боку. У сувязі з тым, што бацькі ягоныя мелі ў той час „зашмат" гектараў зямлі, Баляслава Манкевіча абвінавацілі ў тым, што ён нібыта „кулак". Не памагла ніякая абаронная мова. Найгорш пашкодзіла гэта сям'і.

(Працяг на стар. 3)




### ЯГО НЕАПОШНІ ПЛЕНУМ

**На календары маем 1991 год, а не 1961 ці 1971. Гэтая заўвага адрасуецца перш за ўсё У. Юзвюку, старшыні Рэвізійнай камісіі БГКТ. Ён жа, мяркуючы па ягонай адгалосцы („Ніва“, 9.06.91) на мой артыкул пра пленарнае пасяджэнне ГП БГКТ 17 сакавіка г.г., не надта цяміць, у чым тут розніца. Таму дарэчы будзе хоць сігнальна адзначыць тое, чым дзень сягонняшні адрозніваецца ад гамулкаўскіх ці геркаўскіх часоў. Па-першае, скончыўся перыяд „палітычных бюро, цэнтральных камітэтаў і іншых экзекутываў“, дзе „праваднікі народу“ размяркоўвалі, што народу рабіць, што думаць і калі пляскаць у далоні. Паявілася нешта такое, што называецца плюралізмам палітычна-грамадскага жыцця, у сферы арганізаваных формаў актыўнасці і ў сферы думкі. У беларускім руху — таксама. А гэта значыць, што слушнасць нечых поглядаў на далейшы поступ таго руху і ягоныя перспектывы вызначае не трыбуна, з якой яны выказаны, а жыццёвая практыка. Па-другое, змянілася грамадская база беларускага руху. Цэнтры актыўнасці зусім выразна, і то не ў апошніх гадах, перасунуліся ў гарады: Беласток, Гайнаўку, Бельск; пра беларускую дыяспару ў Варшаве ці Гданьску і не трэба ўпамінаць, бо гэта само сабой зразумела. Пераважную большасць актывістаў руху складаюць людзі з гарадскога інтэлігенцкага асяроддзя. Па-трэцяе, эканамічныя змены ў краіне непазбежна вымушаюць тое, што я назваў бы тут „элітарызацыяй культуры“. Перакладаючы гэта на арганізацыйную практыку, трэба сказаць так: у культурнай дзейнасці вядучую ролю пачынае адыгрываць не „масавасць культурнага ахопу“, а прафесіяналізм тае дзейнасці. Значыць, сучаснаму спажыўцу культуры — слухачу ці чытачу — якімі ж і ўсе мы ў такой ці іншай ступені з'яўляемся, патрэбны не культработнік з нейкай „агульнай кваліфікацыяй“, які будзе вяскоўцам распавядаць пра тэрміны цялення кароў ці пра тое, чаму не трэба пакідаць роднай мовы і мусова чытаць творы „белавежцаў“, а прафесіянал — акцёр, спявак, фільмовец, пісьменнік — які самарэалізуецца ў беларускай культуры і сваім прафесіяналізмам сцвярджае атракцыйнасць і трывучасць тае культуры. Пры такім падыходзе ніякае трыбуннае агітатарства за родную мову, культуру, шанаванне гістарычнай спадчыны непатрэбна.**

**Мабыць, у адчуванні гэтай „новай музыкі часу“ заключаецца ядро незразумення, што тычыцца далейшых накірункаў беларускай культурна-асветніцкай працы сягоння. У ілюзорным свеце шасцідзесятых гадоў знаходзіцца У. Юзвюк, які час ад часу „катае“ свае рапарты і справаздачы з высновамі, якіх аніяк не прышыць да той сітуацыі, у якой апынулася БГКТ зараз. БГКТ сягоння ў стане арганізацыйнай і канцэптуальнай атрафіі: як прыкончыць невыгоднага чалавека, дзеля гэтага актывісты яшчэ здольныя, але як скрануць дзейнасць — тут поўная бездапаможнасць. Інтэлектуальная перад усім. Калісьці хоць таварышы з Ваяводскага камітэта падказвалі, што рабіць. І іх слухалі. Спрабавалі б не паслухацца. А зараз? Зараз, калі беларускі рух зусім натуральна раздзяліўся на некалькі грамадскіх плыняў, здзеклівы лёс надалей вызначае БГКТ ролю адзінага атрымальніка дзяржаўнай датацыі. Грошы, якія фактычна прыслугоўваюць усяму беларускаму руху (зразумела, за выняткам палітычнай плыні ў ім), ідуць на рахунак БГКТ, і распараджаецца імі Прэзідыум ГП (які, прабачце, нават пратаколаў са сваіх пасяджэнняў не піша). Калі я кажу, што ў БГКТ, такім, якое яно цяпер, няма перспектывы, то, акрамя ўсяго іншага, я маю на ўвазе і элементарную біялагічную перспектыву — пасля апошніх зменаў у ГП разрыў паміж старэйшым і малодшым пакаленнямі яшчэ пашырыўся — рэй у Прэзідыуме і ГП вядуць людзі паміж 50-м і 60-м гадам жыцця. Павядзем беларускі рух у будучыню... Каб**

**(Працяг на стар. 3)**




— 44 —

# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Кантактуючыся і размаўляючы з англійскімі беларусамі, слухаючы непакалечаную беларускую мову, я заўсёды стаўлю сабе пытанне: а чаму ж гэта беларусы з Беластока або ўвогуле не размаўляюць па-беларуску або размаўляюць на вуліцы, азіраючыся па баках? Па сутнасці адказ тут просты. Справа ў тым, што на лонданскай вуліцы можна гаварыць па-якому хочаш і не трэба азірацца, бо тут нікому да нікога няма ніякай справы ані прэтэнзіі з прычыны яго гутаркі, чаго нельга сказаць аб Беластоку. Аднак галоўная віна не ў акружэнні, а толькі ў нас. І ў Беластоку ёсць такія, якія паслугоўваюцца беларускай мовай, захоўваючы такім чынам сваю нацыянальную годнасць. Аднак, большасць паступае інакш.

Хачу яшчэ раз вярнуцца да дарагой майму сэрцу Беларускай бібліятэкі імя Францішка Скарыны. Не вельмі яе люблю днём. Справа ў тым, што днём заходзяць у яе наведвальнікі. Практычна ўсе яны ўжо мае знаёмыя. І зразумела, што як я, так і знаёмы наведвальнік лічым сваім абавязкам пагаварыць. І вось так гаворка за гаворкай — і не агледзішся, калі зыдзе некалькі гадзін. Уражанні прыемныя, але вынікаў у працы ніякіх. Іншая справа позным вечарам. Як правіла, наведвальнікаў ужо няма. Загляне часам Янка Міхалюк, раскажа нейкую каларытную гісторыю са свайго багатага жыцця-быцця і пойдзе. Астаешся адзін толькі з кнігамі і ксэраксам, дзякуючы якому на працягу адной гадзіны можаш перадрукаваць для сваіх патрэб некалькі гадавікоў газеты або сярэдняй таўшчыні кнігу. У такіх якраз абставінах перадрукаваў я для патрэб сваіх і студэнтаў кафедры беларускай філалогіі некалькі дзесяткаў кніжак і цэлыя гадавікі такіх часопісаў, як: „Шыпшына“, „Конадні“, „Сакавік“. А цікавы часопіс „Божым шляхам“ увесь арыгінальны камплект атрымаў я як падарунак ад біскупа А. Сіповіча і А. Надсона. Дзякуючы гэтаму ўжо чатырох маіх студэнтаў напісала і абараніла магістэрскія работы, прысвечаныя публіцыстыцы, літаратурнай крытыцы і мастацкім творам, змешчаным на старонках гэтых часопісаў. Калі б не лонданская беларуская бібліятэка, гэтага не сталася б, бо ў Польшчы ніводная з бібліятэк, а думаю, што ніхто і з прыватных асоб, не мае ані „Шыпшыны“, ані „Сакавіка“, ані „Конадняў“, ані „Божым шляхам“.

І вось у вячэрняй цішыні сядзеш сабе ў чытальні, маючы свабодны доступ да ўсіх кніжных паліц і шафаў. Калі маеш якія сумненні ці пытанні, можаш падняцца на другі паверх, дзе да позняй ночы сядзіць у сваім заваленым кнігамі кабінеце тытан працы святар Аляксандр Надсон. Для яго бібліятэка не мае ніякіх таямніц. Калі чуеш стомленасць або соннасць, тут жа на месцы знаходзіцца куханька, у якой заўсёды ёсць моцная англійская гарбата ці кава, якія цябе паставяць на ногі.

Цяжка сабе ўявіць нешта больш ідэальнае для працы, чым беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны ў Лондане. Адсюль і плывуць мае культавыя адносіны да гэтай так патрэбнай і унікальнай пляцоўкі. А трэба ведаць, што магло яе і не быць, калі б не знайшліся людзі выключнай высакароднасці і ахвярнасці, якія пазбіралі ўсё тое, што было раскідана па шырокім свеце і часта знаходзілася ў выпадковых асоб.

І таму належыцца ўдзячнасць і шчырая падзяка ад усіх беларусаў свету гэтым добрым, прадбачлівым і разумным людзям.

Зразумела, што Беларускую бібліятэку імя Ф. Скарыны ў Лондане можна ацэньваць у розных аспектах і па-рознаму яе акрэсліваць. Мне асабіста, калі аб ёй думаю, прыходзіць у галаву думка, што з'яўляецца яна БЕЛАРУСКІМ АКНОМ У ЕЎРОПУ І ЕЎРАПЕЙСКІМ АКНОМ У БЕЛАРУСЬ.

**Алесь Барскі**




**IV Рэгіянальныя сустрэчы,** прысвечаныя супрацоўніцтву з мясцовымі самаўрадамі, праводзіліся ў Беластоку, Сямяцічах, Драгічыне і Мельніку. Прымалі ў іх удзел прадстаўнікі рэгіянальных таварыстваў з Беластоцкага, Бела-Падляшскага, Сядлецкага, Ломжынскага і Сувальскага ваяводстваў. Удзельнікі сустрэчы накіравалі ў ваяводскія сеймікі ліст у справе супрацоўніцтва ў галіне культуры.

**Адбыўся агульнапольскі экалагічны сімпозіум,** прысвечаны ажыццяўленню ідэі „зялёных лёгкіх Польшчы“. Удзельнікі сімпозіума разам з прадстаўнікамі міністэрства аховы асяроддзя, прамысловасці, здароўя і планавання наведалі будучы Бебжанскі і Вігерскі нацыянальныя паркі, а таксама пазнаёміліся з прычынамі забруджання Мазурскіх азёраў. Міністэрства аховы асяроддзя падпісала дакумент аб стварэнні пагаднення „Зялёныя лёгкія Польшчы“.

**У Беластоцкім політэхнічным інстытуце закончыўся гадавы курс арганізацыі і кіравання** для выпускнікоў гэтай установы. Удзельнічала ў ім 68 студэнтаў, а дыпломы атрымала 44 чалавекі. На працягу дзесяці месяцаў заняткі вялі не толькі выкладчыкі з Польшчы, але і з Вялікабрытаніі, ЗША, Партугаліі, Грэцыі і Сан-Марына. У праграме было 150 гадзін навучання англійскай мовы.

**У Беларускім музеі ў Гайнаўцы адкрыта фотавыстаўка аб выніках Чарнобыльскай трагедыі.** Раней экспанавалася яна ў Мінску, а неўзабаве паедзе на Захад. З монаспектаклем на адкрыцці выступіла заслужаная артыстка БССР **Таццяна Мархель.** Музей у Гайнаўцы (вул. 3 Мая 42) у будныя дні адкрыты з 9 да 18 гадз., а ў святочныя — з 11 да 19 гадз.

Раённая пракуратура ў Бельску-Падляшскім закончыла следства і перадала ў Ваяводскі суд у Беластоку **акт абвінавачання ў справе спалення 12 ліпеня 1990 г. царквы Праабражэння Гасподняга на Святой Гары ў Грабарцы.** У гэтым злачынстве абвінавачваецца 32-гадовы Ян С., які ў следстве прызнаўся да віны. Тэрмін судовага працэсу яшчэ не назначаны.

## СВЯТА БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

Згодна з традыцыяй апошніх гадоў **23 чэрвеня 1991 года ў Беластоцкім амфітэатры адбудзецца Свята беларускай песні.**

У праграме:

— лаўрэаты (салісты, дуэты і калектывы) агляду „Беларуская песня '91“ з Беласточчыны,

— калектыў „Світанак“ з Вілейкі,

— калектыў „Новае неба“ з Мінска,

— эстрадныя спевакі з БССР: Юля Скараход, Алена Зеляневіч, Інна Афанас'ева, Мікалай Скорыкаў, Вадзім Касенка і Уладзімір Кудрын,

— Дзяржаўны канцэртны аркестр пад кірункам Міхася Фінберга.

Пачатак а 15 гадзіне. Білеты прадаюцца ў ГП БГКТ у Беластоку, вул. Варшаўская 11, тэл. 435-118.

**Галоўнае праўленне БГКТ**

### ПАДЗЯКА

**Арганізатары летняга адпачынку дзяцей з Чарнобыльскай зоны на Беласточчыне выказваюць ахвяравальнікам шчырую падзяку за пералічаныя ў наш фонд грошы:**

**1. Лявон Шыманец (Францыя) — 100 дол.**

**2. Міхась Занковіч (Францыя) — 146,5 дол.**

**3. Вучні Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы — 481.000 зл.**

**Віктар Стахвюк**

### БАС ЗАПРАШАЕ...

**...на вандроўку „Бацькаўшчына-8“ і Купалле. Рэйд пачнецца 1 ліпеня ў Мілейчыцах. Удзельнікі павінны з'язджацца ў Мілейчыцы пад вечар. На наступны дзень пяройдуць яны ў Снежкі, 3 ліпеня ў Вольку-Выганоўскую, 4 — у Залешаны, 5 — у Дубічы-Царкоўныя, а 6 — у Орлю. Там рэйд і закончыцца фальклорным святам Купаллем, у цудоўным месцы, на лясной паляне паміж Орляй і Рудутамі („Пад дубам“, як называе яго тамашні народ).**

**Пад час рэйду, як і папярэднімі гадамі, прадбачваюцца даклады і сустрэчы з цікавымі людзьмі.**

# Пра вершы Віктара Шведа

Успамінаю сабе адну так званую аўтарскую сустрэчу ў сваёй школе ў Гародчыне, недзе на схіле шасцідзесятых, калі да нас, жэўжыкаў трэціх-чацвертых класаў, прыехалі беларускія паэты. Трох. Прозвішча я не запамятаў аніводнага, але дакладна мне запамятаўся рогат, які каціўся па зале, калі адзін з гэных дзядзькоў чытаў вершык пра ката, што лавіў мыш у смятане. Як пазней высветлілася, аўтара звалі Віктарам Шведам. Было гэта маё першае спатканне з жывым беларускім паэтам. Прыемнае.

Пра тое, што В. Швед піша надзвычай удалыя вершы для малодшага чытача, гавораць без упыну ўсе, каму выпадае нешта сказаць пра літаратурную актыўнасць „белавежцаў". Аднак жа мне не давялося ні пачуць, ні прачытаць меркавання, у чым тут „сакрэт". Справа няўвагі да „маргінальнай" праявы творчай актыўнасці (ці выпадае сур'ёзна разважаць пра „несур'ёзныя" вершыкі?), ці, можа, бездапаможнасць аналітычнай думкі перад феноменам асаблівага кантакту: дзіця — вобразнае зрыфмаванае слова? Бо трэба пагадзіцца, што ў так званай паэзіі для дзяцей імя дакладна адпавядае вобразу, з'яве, рэчы, якія называе (так яно ўспрымаецца чытачом, які дыхатомію імя — рэч адчуе значна пазней). І калі ў дзіцячай паэзіі непасрэдная суаднесенасць імя і таго, што яно называе, з'яўляецца як бы перадумовай заіснавання тае паэзіі, то ў так званай „творчасці для дарослых" гэтая повязь найчасцей не з'яўляецца нават неабходнай. Бо ўспрыманне дарослага працуе ў іншым дыяпазоне, шырэйшым, ловіць, так бы мовіць, некалькі станцыяў адразу...

Віктара Шведа ў ягонай „дарослай паэзіі", як мне здаецца, можна злавіць на адной станцыі. Такое ўражанне я меў, чытаючы ягоныя вершы ў „Ніве" альбо ў ранейшых зборніках, такое ўражанне засталося ў мяне пасля ягонага апошняга зборніка „Родны схоў". Хоць у сэнсе праблемна-тэматычнага абсягу ў Шведавай паэзіі маем дачыненне з цалкам, так сказаць, „дарослым дыяпазонам", то ў сэнсе паэтычнага вырашэння пастаўленых пытанняў назіраем той жа элементарны ўзровень, на якім слова выяўляе перш за ўсё сваю намінатыўную канкрэтыку. З увагі на гэта верш атрымліваецца як бы ў адным вымярэнні, будучы адно по-

**ВІКТАР ШВЕД**




бытавай замалёўкай ці то з жыцця празмерна ідэалізаванай вёскі, ці то з досведу гарадскога інтэлігента ў „бетонным блёку". Падтэкст такога верша, зусім натуральна, зводзіцца найчасцей да нейкага зрыфмаванага публіцыстычнага тэзісу. Гэткім чынам паэзія В. Шведа выяўляе чытачу нейкую „жыццёвую праўду", больш ці менш істотную, больш ці менш відавочную, затое не дае таго „ўгляду" ва ўнутраную праўду паэтычнага слова, у шматгранную сістэму значэнняў-назоваў, значэнняў-сімвалаў, значэнняў-гукаў урэшце.

Летапісцу беларускага лёсу на Беласточчыне, якім, несумненна, з'яўляецца В. Швед, праз прызму нашага правінцыйнага існавання-гібення можна ўбачыць шмат якія ісціны зусім не правінцыйнага значэння, ісціны універсальныя, калі можна так выказацца. Распад традыцыйна-сялянскага ладу жыцця беларуса, пакутлівы пераход з „агістарычнасці" вясковага быцця ў „не зусім гістарычны" гарадскі перыяд надзвычай ярка адцяняе як спрадвечныя і універсальныя дылемы „бацькоў і дзяцей", так і праблему нацыянальнай эрозіі „не зусім беларускай нацыі". Тое, што наступнае пакаленне адпрэчвае ці абмінае шмат што напрацаванае папярэднім, тое, што маладое пакаленне беларусаў па паходжанні амаль напавал адракаецца ад роднай мовы і культуры — ісціны бясспрэчныя. І гэта, так сказаць, ісціны вялікія, нягледзячы на тое, што яны амаль кожнаму відавочныя. Праблема ў тым, як іх выказаць у паэтычным творы, каб ад іх тхнула публіцыстычнай банальшчынай. Зноў жа такія ісціны, што з Беластока ў Варшаву курсуе цягнік „Пагоня", што ў вёсцы Мора правялі тэлефоны (прыводзім тут, дзеля прыкладу, тэмы некаторых ранейшых вершаў В. Шведа), ісцінамі вялікімі не з'яўляюцца. Гэта сцвярджэнні банальныя, хоць для пасажыраў лініі Беласток—Варшава ці для жыхароў вёскі Мора факты гэтыя маюць цалкам практычнае значэнне. У паэтычным свеце В. Шведа значнасць і банальнасць існуе як бы на поўных правах, без асаблівага аўтарскага „адбору". Гэта, трэба прызнаць, праяўляецца ў зборніку „Родны схоў" не так выразна і аголена, і трэба адзначыць вялікую заслугу ў гэтым ягонага рэдактара Яна Чыквіна, які даволі „аўтарытэтна" правёў сваю рэдактарскую лінію, не беручы ў падборку шмат чаго банальнага ці, кажучы інакш, публіцыстычна-ілюстратыўнага. Пазбегчы цалкавіта такога рэдактар быў у змозе, бо ж немагчыма перарабіць творчую манеру паэта на зусім іншы капыл. Але, у выніку, „Родны схоў" дае неблагое ўяўленне пра лепшыя дасягненні В. Шведа, аб'ектывізаваныя, скажам жартам, „па-чыквінаўску"...

**Ян Максімюк**

*Віктар Швед, „Родны схоў". Выданне Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа", Беласток 1991. Праект вокладкі У. Петрука.*

# У СТЫХІІ РОДНАЙ КУЛЬТУРЫ

**(Працяг са стар. 1)**

якую арыштавалі, пяць месяцаў трымалі ў мінскай турме, а затым саслалі ў Расію. Гэтак закончыліся ягоныя настаўніцкія курсы.

У 1928 г. Баляслава Манкевіча прызвалі ў Чырвоную Армію, у якой ён служыў каля Гомеля да лютага наступнага года. Аднак жа атмасфера сталіншчыны не спрыяла ў той час спакойнаму і нармальнаму жыццю. І так, з быўшага засценка Забярэжжа, у якім было 19 гаспадарак, падчас страшэнных маразоў 1929 г. з 19 сем'яў 15 было выселена ўладамі і саслана ў Сібір. У ссылку трапіў арыштаваны раней і школьны сябра Манкевіча Казімір Пятровіч, пачалі вывозіць і іншых. Пад рэальнай пагрозай быў і ён сам. Усё гэта вырашыла аб тым, што з братам, які вучыўся ў Ленінградзе, дамовіліся яны ўцякаць у Заходнюю Беларусь, а затым у Польшчу.

— У пачатку ліпеня, — успамінае Баляслаў Манкевіч, — прыехаў ён дамоў, у Беларусь. А 13 ліпеня ў нядзелю з Койданава мы фурманкаю паехалі ў бок Негарэлага (станцыя недалёка граніцы) і там уначы з 14 на 15 ліпеня 1930 г. нам удалося перайсці граніцу ў Коласаве. Да Стоўбцаў было недалёка.

Уцякаў ён у Польшчу, быццам бы ў сваю айчыну, „палякам". Аднак, недзе глыбока ў ягонай душы і падсвядомасці драмала беларускасць. На ўсё жыццё запамяталіся яму словы сваёй маці Ганны, уроджанай Корбут, калі недзе ў 1923 г. маладому Баляславу ўдалося дастаць другі зборнік вершаў Янкі Купалы „Гусляр", якім яна пацікавілася: „А, Янка Купала, гэта ж наш Луцэвіч, Ян Луцэвіч, гэта ж наш нейкі далёкі-далёкі сваяк". Кроўная сувязь з класікам беларускай літаратуры, як і сустрэча з братам Якуба Коласа яшчэ ў 1930 г. у Савецкай Беларусі, які ў той час служыў леснікам, ды асабістае сутыкненне з самым Якубам Коласам у Мінску, безумоўна, сыгралі рашаючую ролю ў пазнейшым фармаванні ягонай індывідуальнасці. Будучы ўжо ў Польшчы, Манкевіч выразна заўважыў сваю адметнасць, тое, што, хоць ён і католік, аднак, не паляк, а беларус, што мела ў ягоным выпадку вырашальнае значэнне ў дзейнасці на беларускай ніве.

З Беларускай ССР Баляслаў Манкевіч трапіў у фактычна тадышнюю сталіцу Заходняй Беларусі — Вільню, у якой жыў

**(Працяг на стар. 6)**




**(Працяг са стар. 2)**

**толькі не задыхаліся. Ілюзіяй ёсць і тое, што без структурнай змены Таварыства зможа рухацца ў будучыню, не дэгенеруючыся. Якім жа чынам Таварыства можа развіваць музычную дзейнасць, не маючы на штаце аніводнага чалавека з музычнай адукацыяй? Таварыства можа адно арганізаваць канцэрты тым калектывам, якія сяк-так яшчэ ліпеюць. А дапамагчы школьніцтву? Калі навучанню беларускай мовы не ў змозе пасобіць Кафедра беларускай філалогіі (апрацаваўшы новую праграму ці метадычны дапаможнік), то што можа „старая гвардыя" БГКТ, якая ўжо „пасабляе" не адзін дзесятак гадоў? І таму ўсе пасяджэнні ГП ці іншых звенняў абарочваюцца ў аскомнае нішто. Калі не мае часу ці ахвоты „тытан працы" (акрэсленне У. Юзвюка) Баршчэўскі і не пасуе нам методык навучання мовы з савецкай Беларусі, то давайце закажам падручнік у паляка, які выканае працу за грошы і не будзе трындзець пра ахвярнасць дзеля беларускай справы. Але каб так думаць, то трэба жыць у 1991 годзе, а не ў 1971. А ў 1971 годзе, ці мне вам прыпамінаць, БГКТ шпарнула міністру асветы лісцік, у якім ухваляе фармальную ліквідацыю школ з беларускай мовай навучання на Беласточчыне і фактычна пагаджаецца на навучанне беларускай мовы як дадатковага (чытай: неабавязковага) прадмета (тэкст у „Ніве" ад 10 ліпеня 1988 г.). Прыпамінаю гэта таму, што ў Прэзідыуме ГП БГКТ тады сядзелі сённяшнія рухавікі „змен" у Таварыстве У. Юзвюк і А. Баршчэўскі. Вось так дапамагаць то вы, таварышы, мастакі.**

**Змена на пасадзе сакратара ГП. В. Стахвюк меў тое няшчасце, што пра патрэбу сапраўдных змен у Таварыстве пачаў гаварыць правадырам з Прэзідыума проста ў вочы. Якраз у напрамку такой прафесіяналізацыі, аб якой я вышэй казаў. Узнікла ідэя Цэнтра беларускай культуры, які быў бы дзяржаўнай установай з прафесіянальнымі штатамі, а не штатамі інспектараў па аддзелах і гуртках, што існуюць толькі ў фантазіі і справаздачах У. Юзвюка. Трэба было аж паўтара года, каб авалодаць „небяспекай" і падрыхтаваць адпор на Пленуме.**

**Я не хачу палемізаваць з ацэнкай майго „злашчаснага" артыкула пра Пленум, зробленай У. Юзвюком. Бо, як кажуць, чым даўжэй капаеш, тым больш смурод падымаецца. Слухала маё выказванне на пасяджэнні асоб пад трыццаць, яно, як мяркую, запісана на магнітафоннай стужцы, так што будзе іншая нагода разабрацца, хто з нас ілгун. Звярну толькі ўвагу на адну справу: У. Юзвюка надзвычай расхвалявала справа 200 тысяч злотых, якія В. Стахвюк „вінаваты" БГКТ, а калі я ўсумніўся ў слушнасці размеркавання грошай на камп'ютэрнае паліграфічнае абсталяванне (маючы на ўвазе не што іншае, як неадпаведнасць паміж тэхнічнымі магчымасцямі абсталявання і ступенню прафесіянальнага забеспячэння БГКТ кадрамі дзеля ягонай абслугі), то У. Юзвюка ў ягонай адгалосцы кінула ў смех. Яно то зразумела, бо й сума тут у 3000 разоў большая, так што і пасмяяцца ёсць з чаго... І яшчэ адна заўвага: паліграфічнае абсталяванне купляць не філолагам і фізікам, а паліграфам... Калі няма чалавека, які зробіць гэта за дзякуй, то трэба такому заплаціць. Прафесіяналізм каштуе, пад час калі балбатня на Прэзідыуме ці Пленуме — як здаецца, ліецца задарма. Каб было зусім ясна: абсталяванне вартае тых грошай, што за яго ўлялюшчылі, але ж БГКТ яго не вартае...**

**Пра „Ніву". Я ўпэўнены, што як што, але Пленум прысвечаны ацэнцы „Нівы" будзе... Надта ўжо У. Юзвюку рупіць стаць камісарам БГКТ па лініі „Нівы". Малы ўзорчык сваіх памкненняў ён даў на тым сакавіцкім пасяджэнні. Мая адгалоска атрымалася даўгаватая, так што пра гэта распавяду пры іншай нагодзе... А ёсць пра што сказаць.**

**(Працяг на стар. 4)**




(Працяг са стар. 3)

**Наконт таго, ці абразіў я А. Баршчэўскага, называючы яго жалюгодным арганізатарам і палітыкам. Я падаў факты, на якіх абапіраю сваю ацэнку. Калі У. Юзвюк лічыць, што іх можна апраўдаць „дабром нацыянальнай меншасці або БГКТ“, то я ў сваю чаргу лічу, што пры такой метадалогіі вышэй спамянутым „дабром“ можна апраўдаць любую форму палітычнай бязглуздзіцы, жыццёвага прыстасавальніцтва і духоўнай прастытуцыі...**

**ЯН МАКСІМЮК**

**СКУНС**

**Калі хто-колеч хоча ведаць, адкуль бяруцца людскія скунсы, няхай з увагай чытае, аб чым піша сп. Мікалай Панфілюк з Дубічаў-Царкоўных.**

**1. У „Ніве“ ад 21.XII.1986 г. у артыкуле „Не паддамося“ Панфілюк напісаў: „...Я працую пісьманосцам. У мяне „Ніва“ на першым месцы. Я не ўяўляю сабе, каб магло не быць на нашым, беларускім свеце „Нівы“ нашай! Нядаўна адзін з нашых вясковых начальнікаў, хоць сам з простых людзей, цяпер надзьмуўшыся, як той даўні пан з маёнтку, запытаў у мяне з пасмехам, колькі я маю падпісчыкаў „Нівы“. Кажу яму: шэсцьдзесят і ўсе гадавыя.**

**— Na drugi rok nie będzie tyle.**

**— Чаму ж гэта? — пытаю. І ён расхадзіўся, залапатаў: бо „Ніва“ крытыкуе гміну нашу і таму людзі тутэйшыя перастаюць чытаць яе. Я толькі засмяяўся на гэты ягоны пеўнеў крык. Ён мне, гэты начальнік, убачыўся (...) санацыйным яшчэ, хоць ён і не стары, не помнячы даўнейшага таго“.**

**А вось у 24 нумары салідарніцкага „Tygodnika Białostockiego“ ад 28 красавіка 1990 года (ужо не існуе) Панфілюк гнаіў „Ніву“ вось так: „A skomunizowana „Niwa” pod dyktando partii i jej pochlebców zawsze na pierwszej stronie wychwalała różnych sekretarzy partii, naczelników gmin i ich popleczników łgając w żywe oczy o ich „bohaterstwie” za zgodą też skomunizowanego BTSK...”**

**2. У „Ніве“ ад 20.9.1987 у артыкуле „Аб Пілсудскім“ Панфілюк пісаў: „Я пра Пілсудскага начытаўся (...) Не буду распісвацца аб тым, з якой агідай чытаў я даваенныя выданні на гэту тэму, ад якіх адно ззяе нянавісць да ўсяго, што няпольскае, асабліва, калі што звязана з Расіяй. Нас, беларусаў, дык і за людзей не лічылі пілсудчыкі...“**

**А ўжо ў 1990 годзе ў вышэй пададзеным салідарніцкім часопісе піша вось як: „W środku nocy (wrzesień 1939) warta niemiecka zauważyła za stodołami przemykające się cienie — to zachłanni miejscowi aktywiści łowili bezbronnych polskich żołnierzy w kampanii wrześniowej i zdzierali z nich odzież (...) Niemiecki wartownik zobaczył te ruchy i zaczął oświetlać teren rakietami. Jedna z rakiet spadła na dach, a wszystkie budynki były kryte strzechą, powstał z tego wielki pożar...”**

**У „Голасе Радзімы“ (нр. 49 (2191), калі хто захоча пацікавіцца, Панфілюк аплёўвае тое, што лізаў, і ліжа тое, што аплёўваў — цяпер пад неба хваліць усё, што польскае, а гноіць савецкае.**

**Бяда ў тым, што ён сваёй хлуснёй, друкаванай у іншых часопісах, настаўляе частку польскіх шавіністаў і людзей, гатовых да помсты, супраць сваіх аднасяльчан, якія жывуць у межах Польшчы і не так ужо далёка ад Беластока. Што будзе, калі ім захочацца адпомсціць дубічанам за тое, што абдзерлі вопратку з іх бацькоў? Яны ж не падумаюць, што гэта ўсяго толькі скунс смуродзіць сваім землякам...**

**ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК**

**АДБРАХАЛКІ ЦІ АБМЕН ПОГЛЯДАЎ?**

**Не магу зразумець, чаму адзін з чытачоў (а мо гэта нейкі карэспандэнт?) думае, што рубрыка „Адгалоскі“ гэта адбрахалкі.**

(Працяг на стар. 7)




*Плюцічы, гміна Бельск-Падляшскі. Мал. Ул. Петрука.*



# МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС БЕЛАРУСІСТАЎ

(Працяг са стар. 1)

еца беларуская мова, толькі ў былых засценках і фальварках стараюцца гаварыць па-польску. Ніхто на вёсках не хоча вывучаць беларускую мову, але калі хто пачынае размаўляць з суседам па-польску, тады яго асадзяць такімі словамі: „ну і паляк знайшоўся“, „шляхта“. Часта яны аб сабе гавораць „асобная адмяна“. Такую „адмяну“ і ў нас на Беласточчыне нярэдка сустрэць можна.

З новай ініцыятывай выступіла праф. Альжбета Смулкова з Варшаўскага універсітэта, якая запрапанавала пачаць супольнае комплекснае даследаванне моўнага пагранічча. Прапанова была прыхільна прынята прысутнымі на кангрэсе мовазнаўцамі.

Ахарактарызаваць усе даклады ў адной справаздачы немагчыма, дык з хранікёрскага абавязку пераліччу толькі ўдзельнікаў мовазнаўчай секцыі з Польшчы. Былі гэта: праф. Альберт Барташэвіч, д-р Станіслаў Шадыка, д-р Надзея Панасюк, праф. Мечыслаў Басай (усе з Варшавы), праф. Тадэвуш Левашкевіч з Познані, праф. Ян Насовіч з Беластока, праф. Весслаў Віткоўскі з Кракава і дац. Васіль Ціханюк з Зялёнай Гуры.

У секцыі па гісторыі і культуры займаліся: д-р Юры Туронак з Варшавы, праф. Андрэй Садоўскі і д-р Антон Міpановіч з Беластока, д-р Мікола Іваноў з Вроцлава, праф. Марцэлі Косман з Познані, праф. Здзіслаў Нядзеля з Кракава і д-р Рышард Радзік з Любліна, а ў секцыі па літаратуры, мастацкаму перакладу і фальклору: дац. Аляксандр Баршчэўскі, д-р Марыя Чурак і Чэслаў Сэнюх з Варшавы, дац. Ян Чыквін з Беластока, д-р Валенты Пілат і д-р Мечыслаў Яцкевіч з Ольштына.

26 мая, другі дзень кангрэса, прайшоў пад знакам арганізацыйных спраў. 119 дэлегатаў, якія прыехалі на кангрэс, мелі прыняць статут Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў і выбраць кіраўнічыя органы. Кожнае галасаванне праводзілася з улікам прынцыпаў дэмакратыі і аб адабрэнні без галасавання ці яўных выбараў, асабліва савецкія дэлегаты, і слухаць не хацелі. А дэмакратыя, вядома, патрабуе часу. Некалькі гадзін паглынула прыняццё статута МАБ: чытаўся кожны яго артыкул, потым была дыскусія над ім і тады галасаванне. Затым выбіраліся кіраўнічыя органы Асацыяцыі. Перад абедам паспелі толькі вылучыць кандыдатаў у Міжнародны камітэт. Галасаванне адбылося на наступны дзень.

Другую палову дня запоўніла культурная праграма. Спачатку госці кангрэса прынялі ўдзел у свяце Беларускага пісьменства ля помніка Максіму Багдановічу, 100-ую гадавіну з дня нараджэння якога адзначаем сёлета. Урачыстасць адкрыў міністр культуры Яўген Вайтовіч. Выступалі фальклорныя калектывы, акцёры чыталі вершы паэта. З кароткай прамовай выступіў Алесь Барскі, а Вэра Рыч прадэкламавала па-англійску верш „Пагоня“. Потым была паездка ў Мікалаеўшчыну на радзіму Якуба Коласа.

У апошні дзень кангрэса (27 мая) перад заключным пленарным пасяджэннем адбыўся „круглы стол“, прысвечаны беларускай дыяспары, але аб гэтым будзе ў „Ніве“ асобная публікацыя. На апошнім пленуме былі аб'яўлены вынікі ранішняга галасавання. З польскага бо-

# ШТО ПАЛЯКАМ ТРЭБА ВЕДАЦЬ ПРА БЕЛАРУСАЎ

14 мая на гэту тэму ў Інстытуце гісторыі Польскай акадэміі навук разважалі ўдзельнікі дыскусіі, якая завяршала цыкл канверсатарыйных заняткаў у Варшаўскім універсітэце, прысвечаных Беларусі. Заняткі праводзіліся ў рамках даследаў нацыянальных праблемаў СССР і Цэнтральна-Усходняй Еўропы. У дыскусіі прынялі ўдзел: праф. Альжбета Смулкова — мовазнавец, публіцыст каталіцкага месячніка „Вензь“ і беластоцкага часопіса „Плюс“ Марэк Зюлкоўскі ды гісторык са Шчэціна д-р Войцех Лізак.

Першым слова ўзяў М. Зюлкоўскі, які прадставіў цяперашнюю палітычную сітуацыю ў БССР. Пачаў ён ад узнікнення арганізаванай апазіцыі камуністам, г.зн. з восені 1988 г., калі стварыўся Беларускі народны фронт „Адраджэнне“. Народны фронт стаў тым фактарам, які выклікае змены ў рэспубліцы, хаця і не мае магчымасці вырашаць яе лёс. Камуністычная ўлада, з аднаго боку, накідаецца на БНФ, а з другога, паступова пераймае яго пастулаты і ўводзіць у жыццё як свае, напрыклад, суверэнітэт БССР, дзяржаўнасць беларускае мовы. Але за гэтым ідзе значная радыкалізацыя фронту. Адным з самых істотных і радыкальных крокаў быў пераход ад інтэлігенцкай нацыянальнай фразеалогіі (мова, культура, духоўнасць) да эканамічных патрабаванняў — агульназразумелых і здольных зварухнуць цэлы народ. БНФ „Адраджэнне“ выказваецца за незалежнасць Беларусі і яе дэкамунізацыю. З такімі самымі лозунгамі выступілі рабочыя пад час красавіцкіх страйкаў. У страйкавых камітэтах ўвайшлі актыўныя сябры Сойма БНФ. Гэтаму маладому руху не хапае дасведчання і арганізаванасці, але эфекты яго дзейнасці відавочныя. Для знаёмых з Беларуссю самі бел-чырвона-белыя сцягі, пад якімі выступілі рабочыя, гавораць ужо вельмі многа.

Праф. А. Смулкова гаварыла пра беларускую мову і яе месца ў жыцці БССР. Як вынік значнага недахопу ведаў палякаў палічыла яна выказванні, сыходныя з расійскай імператарскай навукай канца XIX — пачатку XX ст. ст., што, маўляў, беларуская мова не існуе, гэта толькі пераходныя дыялекты (vide: „Kurier Podlaski“). Пра тое, ці канкрэтную мову можам лі-

## НОВЫЯ ВЫДАННІ

Трапіў мне ў рукі восьмы нумар штомесячніка **„Беларускі DX інфарматар САМОТНІК“** (травень 1991). Выдаваннем бюлетэня займаецца Інфармацыйнае агенцтва „Смага“. Выданне накіравана да радыёаматараў дыэксістаў.

Большасць месца ў бюлетэні займаюць доўгія калоны лікаў і сімвалаў — няўцямных звычайнаму чалавеку, але радыёаматару, які рупліва нацэльвае ў неба антэну свайго праёмніка ды знаходзіць задавальненне ў парадкаванні эфірнага хаосу, пэўна ж, неацэннай вартасці. Зацікаўленыя асобы знойдуць у бюлетэні інфармацыю пра гадзіны, частоты і тэматыку перадач вяшчальных станцый Савецкага Саюза, Фінляндыі, Нямеччыны, ЗША, Карэі, Філіпін ды іншае. Наколькі мне вядома, падобная кампіляцыя (спіс гадзін перадач і частот усіх радыёстанцыяў свету) паказваецца штогод у кніжнай форме — „World Radio and TV Handbook“. Кніга гэтая, калі не памыляюся, каштуе недзе за 50 дол. ЗША. Беларускі інфарматар „САМОТНІК“ каштуе ўсяго 2 рублі — з гэтага аднаго факту вынікае большая яго практычнасць. **У „САМОТНІКУ“** знойдзеце таксама і практычныя парады — як, прыкладова, выканаць антэнны ўзмацняльнік для паляпшэння прыёму стэрэаперадач.

Лучнасць з рэдакцыяй **„САМОТНІКА“: Беларусь, 220107 Мінск, паштовая скрынка 213.**

**(вп)**

ку было прапанавана пяць кандыдатаў на два месцы, якія былі прызначаны Польскаму беларусазнаўчаму таварыству. У выніку тайнага галасавання ў Міжнародны камітэт увайшлі Аляксандр Баршчэўскі і Міхал Кандрацюк. Нававыбраны камітэт на закрытым пасяджэнні прэзідэнтам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў выбраў Адама Мальдзіса, а віцэ-прэзідэнтамі Томаса Бэрда (ЗША), Джэймса Дынглі (Вялікабрытанія), Міхала Кандрацюка (Польшча) і Рыгора Піўтарака (Украіна). Вучоным сакратаром стаўся Генадзь Цыхун, скарбнікам — Андрэй Каляда, а старшынёй рэвізійнай камісіі — Аляксандр Крывіцкі.

На заканчэнне былі прызнаны дыпломы ганаровага члена МАБ непрысутным на кангрэсе нестарам польскай беларусістыкі: праф. Антаніне Абрэмбскай-Яблонскай і праф. Лешку Асоўскаму, а таксама іншым замежным вучоным.

Пасля кангрэса, 28 мая, у Вярхоўным Савеце БССР адбылася ўрачыстасць уручэння медалёў імя Францішка Скарыны замежным беларусістам. Як першаму замежнаму вучонаму старшыня ВС Мікалай Дземянцей уручыў медаль Аляксандру Баршчэўскаму. Медалі прызнаны таксама Вацлаву Жыдліцкаму і Джэймсу Дынглі.

**В. Луба**

Фота С. Крыцкага



*Ля помніка Максіму Багдановічу выступае фальклорны калектыў.*

# НАШЫ КАРАНІ

### Х. РАГНЕДА

Гэтак ужо склалася, што ў хрышчэнні славянскіх народаў амаль заўсёды прымалі актыўны ўдзел выдатныя жанчыны. Таму „хроснай маці“ чэхаў можна назваць княгіню Людмілу, палякаў — Дамброўку, ля хроснай купелі насельнікаў Кіеўскай дзяржавы, трэба лічыць, сталі дзве княгіні: Вольга — бабулька Уладзіміра, і Ганна — ягоная жонка. А хто ж прысутнічаў ля хрысцільніцы беларусаў? Гэта была, несумненна, нашая нацыянальная гераіня, адвечны ўзор і неўміручы прыклад беларускі-хрысціянкі, бязмежна адданай сваёй Бацькаўшчыне — княгіня Рагнеда.

Як ужо вядома нам, была Рагнеда дачкою полацкага князя Рагвалода. Малады князь Уладзімір зваяваў Полацкае княства, князя, княгіню і іхніх сыноў пазбавіў жыцця, а прыгажуню Рагнеду прымусіў стаць сваёй жонкай. Спачатку яна жыла ў Кіеве ў раскошных княжацкіх харомах. Аднак Уладзімір перад сваім хрышчэннем і жаніцьбай з візантыйскай прынцэсай Ганнай, згодна з вымаганнямі хрысціянскае веры, адхіліў ад сябе ранейшых жонак, якіх у яго як паганскага князя было некалькі. Князь запрапанаваў Рагнедзе выйсці замуж за ягонага знатнага баярына, але княгіня адмовіла і жыла з дзецьмі ў сваёй сядзібе Прадславіна, пад Кіевам. Відаць, вучэнне Хрыстова было ўжо знаёма Рагнедзе не толькі з Кіева, але яшчэ з Полацка, дзе, як мяркуюць некаторыя вучоныя, магла здаўна існаваць хрысціянская абшчына. Таму адразу пасля хрышчэння Уладзіміра таксама Рагнеда прыняла хрэст і ахрысціла сваіх шасцёра дзяцей — у пазнейшы час вядомых князёў Ізяслава, Мсціслава, Яраслава, Усевалада і князёўнаў — Прадславу і яшчэ адну дачку, імя якое не захавалася ў хроніках. Выхавала іх усіх на шчырых хрысціянаў і выдатных дзяржаўных дзеячоў. Старэйшы яе сын Ізяслаў адбудаваў незалежнасць Полацкага княства ад кіеўскага князя, многа ўчыніў для пашырэння і ўмацавання веры Хрыстовае ў сваёй абшырнай дзяржаве. У летапісе гаворыцца, што ён „моцна шанаваў духавенства і манаства і заглыбляўся ў чытанне Свяшчэннага Пісання“. Князь Яраслаў Мудры (у хрышчэнні Юрый) быў не толькі выдатнейшым палітыкам і вайскоўцам, але таксама царкоўным дзеячом. Пры яго панаванні Русь атрымала ўласную мітраполію, ён пабудаваў у Кіеве славуты па сённяшні дзень сабор св. Сафіі, клапаціўся пра пашырэнне адукацыі сярод духавенства, сам быў чалавекам адукаваным і замілаваным чытачом Свяшчэннага Пісання, заказваў пераклады багаслоўскіх кніг з грэцкай на славянскую мову. Яго брат, князь Мсціслаў Удалы, вядомы як умацавальнік Праваслаўя на поўдні Русі і будаўнік выдатнага сабора Збавіцеля ў Чарнігаве.

Рагнеда жыла пры старшым сыне, князі Ізяславе, і была яго першай памочніцай і найлепшай парадніцай. Яна прыняла манаскі пострыг з імем Анастассі ды цалкам прысвяціла сябе хрысціянізацыі і царкоўнаму будаўніцтву на Полаччыне. Дзякуючы яе намаганням ужо ў 992 годзе ў Полацку была заснавана епіскапская кафедра і пастаўлены епіскап. Па ўсім княстве паўсталі шматлікія цэрквы, пачалі засноўвацца манастыры. Легенда кажа, што манастыр у горадзе Заслаўі (непадалёку сённяшняга Менска) заснавала сама Рагнеда, у канцы жыцця пасялілася ў ім, была ігуменняй. Памерла яна ў 1000 годзе. Народ увекавечыў яе памяць: па сённяшні дзень каля Заслаўя рэчка завецца Княгінькай, возера Рагнедзь, а пагорак — Магілай Рагнеды.

**Мікола Гайдук**

чыць літаратурнай, ці толькі дыялектам іншай мовы, не вырашае іхнае падабенства, або розніца між імі (напрыклад, чэшская мова куды бліжэйшая славацкай, чымсьці верхне-нямецкі дыялект ніжне-нямецкаму, аднак першыя — дзве асобныя мовы, а другія — толькі дыялекты аднае). Важную ролю ў фармаванні літаратурнай мовы адыгрываюць гістарычныя, культурныя ды палітычныя абумоўленні. Ва ўсходняй Славяншчыне так яны злажыліся, што ўзніклі тры асобныя мовы: беларуская, руская і ўкраінская, якія шмат у чым падобныя, але маюць і істотныя адрозненні.

Сёння становішча беларускае мовы цяжкое, амаль поўнасцю выціснена яна з жыцця горада. Але побач з тэндэнцыяй элімінавання беларускай мовы з ужытку, існуе другая, якая менш кідаецца ў вочы, аднак упарта пашыраецца. Гэта імкненне да адраджэння мовы. Такі дуалізм тэндэнцый можам назіраць і ў шырэйшым кантэксце. Свет імкнецца да камунікатыўнасці (выключная роля англійскай мовы), але малыя народы шукаюць свае тоеснасці, нават цаною замкнёнасці ў сваіх моўных энклавах. Усе народы Усходняй Еўропы шукаюць свае тоеснасці.

Д-р В. Лізак свой рэферат падзяліў на тры часткі: узнікненне Беларусі на руінах Вялікага княства Літоўскага, міжваенны перыяд і польска-беларускія адносіны ў сённяшні дзень. Ягоная інтэрпрэтацыя некаторых гістарычных фактаў выклікала палемічныя галасы ў пазнейшай дыскусіі. Можна сказаць, што да XX ст. не было дзяржавы з назвай Беларусь, але сцвярджэнне: „Беларусь з'явілася разам з ленінска-сталінскай канстытуцыяй“ — гэта проста хлусня. Пан Лізак тлумачыў потым, што меў на ўвазе якраз палітычнае ўтварэнне, а не геаграфічна-этнаграфічнае паняцце. Нельга, па-мойму, пагадзіцца таксама з меркаваннем, што свядомая беларуская нацыя нарадзілася пасля II сусветнай вайны, калі, у выніку розных трагічных падзей, тэрыторыя сённяшняй Беларусі была „ачышчана“ з лічбова істотнага іншанацыянальнага (палякі і яўрэі). Можна спрачацца наконт вызначэння часу фармавання беларускай нацыі, але прычыны, названыя д-рам Лізакам, для мяне неўспрымальныя. Якраз самае буйнае развіццё беларускасці прыпадае на 20-ыя гады, калі дзяржаўнымі мовамі БССР, апрача беларускай, былі польская, руская і яўрэйская. Праз разнароднасць толькі ўзбагачалася культура Беларусі.

Пазнейшая дыскусія засяроджвалася на сучаснасці. Многа было разважанняў наконт будучых міжнацыянальных і міждзяржаўных пагадненняў і саюзаў у нашай частцы свету. Знатакі праблемы адзначалі насцярожанасць народаў абшару паміж Польшчай і Расіяй да абодвух вялікіх суседзяў. Некаторыя палякі, якім мроіцца аднаўленне ягелонскай ідэі, здаецца, не разумеюць страх беларусаў ці літоўцаў перад дамінацыяй заходняга суседа. Пакуль гэтыя народы не стануцца сапраўды незалежнымі, нельга да іх на сілу лезці са сваімі абдымкамі. Той жа д-р Войцех Лізак закончыў дыскусію капітальным сцвярджэннем: „Польшча не можа стацца для Беларусі Вялікім Братам“. І гэта менавіта трэба ведаць палякам.

**Мікола Ваўранюк**

# Іх папараць-кветка або У амерыканскіх беларусаў

### 16. СЯМ'Я АНДРУСІШЫНЫХ

Сям'я Андрусішыных, Данчыкава сям'я, складаецца з пяці асоб. Гаспадар — Паўло Андрусішын, яго жонка Юля, сыны — Данчык і на пару гадоў старэйшы за яго Юрчык, ды бабуля Яніна Каханоўская, Юліна маці.

Усе, апрача гаспадара, у гэтай сям'і гавораць па-беларуску. Паўло Андрусішын — украінец і са сваімі, з украінцамі і беларусамі, значыцца, заўсёды гаворыць па-свойму. Беларусы з гэтага не робяць праблемы. Усе яго разумеюць і апрабуюць.

Мова Данчыка — цудоўна чыстая: быццам бы застыла яна ў віленскай беларускай стыхіі 30-х гадоў. Вядома! Данчыка ж выхоўвала бабуля Яніна, пляменніца славутых братоў Івана і Антона Луцкевічаў, змагароў за беларускае адраджэнне.

Скромная фінансавая пазіцыя сям'і (спадарыня Юля ніколі прафесійна не працавала, а спадар Паўло да сёння працуе звычайным разнікам у „боса“) не перашкодзіла ім вывесці дзяцей „у людзі“. Беларусы ў Амерыцы наогул вучаць сваіх дзяцей, бо толькі гэткім чынам могуць запэўніць ім будучыню і заманіфеставаць сваю прысутнасць у амерыканскім свеце.

Дзеці спадарства Андрусішыных — высокаадукаваныя. Старэйшы, Юрчык, працуе адвакатам. Данчык — таксама з універсітэцкай адукацыяй. Па прафесіі ён журналіст, па сваіх замілаваннях — спявак, выканаўца беларускіх, украінскіх, рускіх песень, а працуе шэфам аддзела кадраў у вялікай фірме банкавага тыпу і падлягае яму больш 200 чалавек. „Божа, ну што мой Данчык?! А які кабінет мае! Нават у Янкі Запрудніка ў радыё „Свабода“ (такі чалавек!), каб ты бачыла, які кабінет — усюды папераў поўна...“, — цешыцца паціху Данчыкава маці.

Спадарыня Юля з мужам Паўлом ад часу, калі Юрчык пачаў працаваць у Нью-Джэрсі, засталіся ўдваіх у сваёй невялікай камунальнай кватэры, амаль у цэнтры нью-йоркскага Манхатана. Жывуць на 6-ай стрыт недзе між 1-ай і 2-ой авеню. Данчык жыве з бабуляй Янінай у яе яшчэ больш цеснай кватэры ўсяго праз дзве вуліцы ад бацькоў, на 8-ай стрыт, у старым, як мне здалося — двухсотгадовай даўнасці доме... І ўсё чакаюць яны (ужо шмат гадоў) новай, лепшай кватэры.

Амаль сям'я — і сп. Антон Шукелайць, старшыня БАЗА, які жыве зусім блізка, на 3-яй стрыт. Ад раніцы да вечара ён як на пасту — гатоў вадзіць нас на экскурсіі па горадзе, чакае ў сп. Андрусішыных. Незмардаваны ў свае 75 гадоў, ён ведае кожны закутак Нью-Йорка, а мы ледзь паспяваем за ім.

Кватэра сп. Андрусішыных знаходзіцца ў тыповым блёку, якіх між 1-ай і 2-ой авеню шмат. Дзве невялічкія спальні і сталовы пакой, у які ўкампанавана аддзеленая толькіаднной сценкай кухня. Скромная кватэра, толькі неабходная мэбля. Але стаіць тут піяніна, на якім іграе Данчык, ёсць відэаапаратура, магнітафоны ды рознае іншае музычнае абсталяванне. Спадарыня Юля вельмі кансеквентна сачыла за развіццём музычных здольнасцей малодшага сына.



*У сп. Бартулеў: (справа) Данчык, яго маці, Галіна Прыма, сп. Антон Шукелайць і Валя Якімовіч.* **Фота аўтара.**

# У СТЫХІІ РОДНАЙ КУЛЬТУРЫ

(Працяг са стар. 3)

ягоны далёкі сваяк. Дзядзькэ крыху памагаў яму, малады Манкевіч крыху працаваў тут, але больш быў беспрацоўным. У горадзе — гэтай калысцы беларускага нацыянальна-вызваленчага змагання, у якой знаходзіўся ён да сакавіка 1934 г., малады беларус пазнаёміўся з віднымі тагачаснымі беларускімі нацыянальна-вызваленчымі дзеячамі: Янкам Станкевічам і галоўным рэдактарам беларускага кааператыўна-гаспадарчага часопіса „Самапомач“ (1932--1939) інжынерам Адольфам Клімовічам. Сустракаўся таксама даволі часта і з супрацоўнікамі ксяндза Адама Станкевіча, які выдаваў у Вільні „Беларускую Крыніцу“.

Аднак беспрацоўе прымушае яго пасля вайсковай службы ў 1931-1932 г.г. надацца ў Варшаву, дзе знаёмыя памаглі яму атрымаць працу ў Польскіх авіялініях „ЛЁТ“ у якасці рэферэнта па справах статыстыкі. І тут Манкевіч не парывае з беларускім асяроддзем, якое збіралася на сходах на вул. Свентакшыскай (8, 10?). Беларуская арганізацыя, у дзейнасці якой браў актыўны ўдзел Пётр Ластаўка, існавала ў Варшаве ўжо да ягонага прыезду. У 1934 г. Баляслаў Манкевіч сутыкаецца і з вядомым заходнебеларускім паэтам, які ў той час жыў і працаваў у Варшаве, Гальяшам Леўчыкам, які выкладаў у гэты перыяд рэлігію ў прыходзе метадыстаў на плошчы Збавіцеля. Як успамінае Б. Манкевіч, Гальяш Леўчык быў тады ўжо пасівелым, меў „прыемны выраз твару“ і „вельмі верыў у Бога, як навучалі метадысты“, у той час перакладаў на беларускую мову рэлігійныя песні.

Адначасна Баляслаў Манкевіч павышае свае веды і кваліфікацыі. У 1938 г. экстэрнам здае экзамен на атэстат сталасці, а затым у тым жа годзе паступае ён у вячэрнюю вышэйшую школу — Акадэмію палітычных навук, якую заканчвае ўжо пасля вайны, перад самай яе ліквідацыяй (была яна прыватнай) у 1949 г.

У 1939 г. Манкевіч прымае ўдзел у абарончай вайне перад уваходам немцаў у Варшаву, перахоўвае некаторых дзеячаў, між іншым, Пятра Гаеўскага і капітана Яна Карнацкага (у 1944 г.), лёс сутыкае яго з беларускімі дзеячамі з Беларускага камітэта, з якімі, аднак, не сыходзіцца ў поглядах. Варшаўскае паўстанне застае яго ў канторы на плошчы Напалеона, з якой удаецца яму прабрацца ў дом на вул. Сеннай 45. Актыўнага ўдзелу ў ім не бярэ, тым не менш пасля паражэння і яго вывозяць у Нямеччыну, спачатку ў Брэслаў (сённяшні Вроцлаў), затым у іншыя мясцовасці, між іншым, каля Катовіц. Трапіў таксама і пад Берлін у Вільмельсгаген, адкуль памог яму вызваліцца Беларускі камітэт у Берліне. У той час знаходзілася там рэдакцыя „Раніцы“.



Сапраўднае, аднак, вызваленне прынесла Баляславу Манкевічу Чырвоная Армія 27 студзеня 1945 г., калі быў ён у Сілезіі. Гэтым трэба тлумачыць і ягоную актыўнасць у Польскім радыё ў Лодзі, для якога ў 1945 г. падрыхтаваў ён звыш дзесяці гутарак, між іншым, „Жыццё Карла Маркса“ (18.VIII), „Філасофія марксізма“ (6.IX.) „Ленін — творца бальшавіцкай партыі ў Расіі“ (25.IX.1945 г.). Сталы мужчына, так як і шмат іншых беларусаў, мог у свой час застацца ў Нямеччыне або падацца далей на Захад. Баляслава Манкевіча цягнула, аднак, у Варшаву, бліжэй Беларусі. Як быццам інстынктыўна прадчуваў ён, што толькі тут можа ён найбольш зрабіць для сваёй Айчыны. І так пачалася ягоная „падручнікавая“, а фактычна беларуская тут эпапея. Яшчэ нядаўні банкаўскі рэферэнт, крэдытар і крэдытны інспектар пасля пераезду з Лодзі на сталае жыццё ў Варшаву ў 1947 г., у 1952 г. Манкевіч становіцца рэдактарам і намеснікам кіраўніка рэдакцыі ПЗВШ (Дзяржаўнага школьнага выдавецтва). У 1951-1958 г.г. пад ягонай рэдакцыяй выходзіць 45 падручнікаў для беластоцкіх беларускіх школ, з якіх 12 перакладзены ім жа з польскай мовы на беларускую. Шматтысячным тыражом выйшлі тады на беларускай мове падручнікі па арыфметыцы, хіміі, геаметрыі, алгебры, геаграфіі, біялогіі, батаніцы, заалогіі, гісторыі, фізіцы, а таксама такія кніжкі, як: „Пазнай сваю краіну“, „Геаграфія Польшчы“, „Беларускае слова“, „Наш буквар“, „Навука аб прыродзе“. Пазней выходзілі яшчэ і іншыя, розных аўтараў, у тым ліку і Лідзіі і Мікалая Гайдукоў. У 1952 г. выходзяць таксама ў ягоным перакладзе на беларускую мову „Праект Канстытуцыі ПНР“ і „Канстытуцыя ПНР“ у выдавецтве „Ксёнжка і Ведза“.

Калі змянілася палітыка ў адносінах да нацыянальных меншасцяў і беларускія падручнікі па розных прадметах аказаліся... „непатрэбнымі“, Баляслаў Манкевіч ад 1958 г. стаў генеральным сакратаром Польскага саюза эсперантыстаў і рэдактарам месячніка на мове эсперанта „Pola Esperantisto“. У 1959 г. у перакладзе яго і А. Райскага выходзіць на мо-

**Данчык і да сёння ходзіць на прыватныя лекцыі спеву, хаця выдаў ужо тры пласцінкі: „Беларусачка“ (1977), „Я ад вас далёка“ (1985), „Мы адной табе належым“ — разам з Лявонам Барткевічам (1989), а цяпер марыць пра тое, каб запісаць на пласцінку калядкі ды ўкраінскія песні ў яго выкананні.**

**У 1989 годзе Данчык пабываў у Мінску, і тамашнія беларусы зрабілі для сябе адкрыццё: хлопец, які нарадзіўся ў Нью-Йорку і ўпершыню ўбачыў Беларусь, гаварыў па-беларуску лепш за мясцовых беларусаў, а як спяваў беларускія песні! — і ім, мінчукам, стала сорамна за саміх сябе.**

**Данчыку хацелася запрасіць усіх новых сяброў да сябе, у Нью-Йорк. Але ці ж гэта магчыма? Нават і некаторых з тых, каго запрасіў, давялося „раздаваць“ пакрысе знаёмым. Усімі, аднак, апекаваўся аднолькава сімпатычна і стараўся паказаць гасцям, што толькі можна, не шкадуючы часу і грошай. Купілі з Раяй Станкевіч білеты ў аперэту, звазілі нас у Вашынгтон, паказвалі Нью-Йорк і яго цікавейшыя месцы, а нават Андрусішыны запрасілі цэлую грамаду на вікенд у горы, на сваю дачу.**

**Данчык усё пытаўся: „Ну, як?“ — і было відаць, што яму вельмі хацелася, каб нам спадабалася яго амерыканская айчына, у якой лёс вызначыў яму жыць.**

**У нью-йоркскай кватэры Андрусішыных на Манхатане пабывалі амаль усе госці, якія былі запрошаны ў Нью-Йорк. Няраз начавала там па 10 чалавек, а нават і мне давялося там пару разоў пераначаваць — цэнтр жа і не трэба поначы вяртацца ў Манхасэт, ці ні свет ні зара ўставаць, калі трэба некуды ехаць. А па начах і так гаворка, смех, а беднаму гаспадару Паўлу Андрусішыну няма месца ва ўласнай хаце. І толькі адзін раз ён знерваваўся, што не можа спаць уначы, а раніцай жа трэба ўставаць і ісці на працу да „боса“...**

**...Вечар. Данчык хацеў бы паказаць нам начны Нью-Йорк. Просіць бацьку, каб павазіў па горадзе. Ушасцёх уціскаемся ў даволі з'езджаны лімузін. Спадарыня Юля, спадар Паўло, Данчык, Валя Якімовіч з сынам Русланам і я. Ездзім па фешэнебельных кварталах Манхатана. Гранітная набярэжная, шыкарныя жылыя блёкі з вельмі дарагімі апартаментамі. Вось тут, паказвае Данчык, жыве Жаклін Кенедзі, а вунь там яе дачка. У гэтай бальніцы памёр шах Ірана і Грэта Гарба. Вось там працуе Янка Запруднік у радыё „Свабода“, а вось тут, кажа, працую я!**

**Зусім недалёка ад цэнтра Лінкольна! Хаця ўжо позна, пакідаем машыну на паркінгу і ідзем глядзець, дзе зарабляе грошы Данчык.**

**Усё ўжо пазамыкана. Але стражнік дае ключы, і хлопец уводзіць нас у гэту вялікую банкавую фірму. Едзем ліфтам, ідзем па калідорах. У вялізнай зале стаіць мноства мёртвых у гэту пару пісьмовых сталоў, калі не лічыць камп'ютэраў. За кожным з іх удзень сядзіць чалавек. а Данчык адказвае за яго чэснасць галавой. Данчык як начальнік аддзела кадраў мае асобны кабінет. Сапраўды прыгожы! Хуценька пераглядае пры нагодзе паперы. Штосьці выкінуў у кош, дзесьці паставіў подпіс. Хоча ж яшчэ паказаць цэнтр Лінкольна, цэнтр Ракфелера.**

**Падсветленыя каляровыя фантаны ў абодвух цэнтрах прарэзваюць чарнату ночы, робяць несамавітае ўражанне.**

**— Вось тут мой Данчык будзе спяваць на Славянскім канцэрце ў студзені, — паказвае спадарыня Юля на Філармонію, якая побач з Метраполітэн-операй і Гарадскім оперным тэатрам знаходзіцца ў Лінкольн-цэнтры.**

**Ездзім па горадзе дапазна. Калі вяртаемся да Андрусішыных, у іх сядзіць чалавек шэсць. Добра, што Паўло забег у піцэрыю і купіў дзве вялізныя (мо з паўметра дыяметрам) піцы, якія мы спалашавалі ўмомант.**

**Колькі расходаў, падумалася мне. Хто ім зверне ўсе тыя выдаткі? Толькі адзін блін піцы, ведаю, каштуе 20 долараў... А сям'я ж не мае лішніх грошай...**

**У грамадстве, дзе чалавек наогул варты ўсяго столькі, колькі ён мае, сям'я Андрусішыных з'яўляецца сапраўдным эвенементам, бо тыя вартасці, якімі эмануе яна, не купіш за ніякія грошы.**

*(Працяг будзе)*

**АДА ЧАЧУГА**



*Мы ў Данчыкавым „офісе“: (злева): сп. Паўло Андрусішын, Данчык, Валя Якімовіч і аўтарка.*

*Фота Юлі Андрусішынай.*




**(Працяг са стар. 4)**

**Якая ж тут лаянка?! Тут ніякай лаянкі няма, толькі абмен поглядаў паміж карэспандэнтамі. Нармальная дыскусія. Толькі што пісьмовая, а не слоўная.**

**Можа, паважаны Я. Муцік усе дыскусіі залічвае да адбрахалак, тады ягоная ўжо справа.**

**Кожны мае поўнае права палемізаваць з іншымі. Кожны мае права сказаць, што думае аб тым ці іншым поглядзе другой асобы і чаму так думае. Зрэшты, ва ўсе газеты і часопісы чытачы прысылаюць лісты з выказваннямі і іх друкуюць. Не раз аўтар артыкула адказвае на гэтыя лісты на старонках газеты. Ці гэта таксама адбрахалка?**

**Рубрыка „Адгалоскі“ павінна быць. Тут карэспандэнты між сабой могуць свабодна абменьвацца поглядамі.**

**Памятаю, як я палемізавала з Фёдарам Хлябічам (што з ім цяпер дзеецца?), з Міхасём Махнацкім, з Мікалаем Панфілюком. Гэты апошні мае нейкую злосць да мяне. Аднак я не пакрыўдзілася, бо такі ўжо ў яго характар. Аднак думаю, што ўся злосць да ўсіх, хто інакш думае, яму пройдзе.**

**Дыскусія цяпер павінна быць у „Ніве“ хаця б на тэму, што карэспандэнты і пастаянныя чытачы думаюць аб беларускіх арганізацыях. Дасюль было толькі БГКТ, а цяпер маем і іншыя арганізацыі. Мне вельмі спадабалася выказванне на гэту тэму У. Юзвюка. Можна было з яго даведацца, якія сапраўдныя суадносіны паміж БДА і БГКТ. Не магла я зразумець, чаму БДА хоча адабраць грошы ад БГКТ?! Грошы ж можна здабыць інакш. Ці ж нельга было б у нейкай зале зрабіць дыскатэку або латарэю і здабыць грошы? Можна ж таксама весці гандлёвую дзейнасць, цяпер усё дазволена.**

**Што датычыць пастаяннай рэлігійнай рубрыкі, то можна было б друкаваць яе раз у месяц, так як паяўляецца „Белавежа“. Думаю, што гэта патрэбнае, бо і на старонках „Нівы“ была б сувязь беларусаў з праваслаўем.**

**Можа, хто інакш думае? Цікава даведацца.**

**АЎРОРА**

ве эсперанта кніжка „Pollando — gegrafio, historio, kulturo“, а ў 1962 г. перакладзеная ім кніжка А. Цібароўскага і С. Яблонскага „Varsovio rekonstruita“. Адначасна, калі ў 1956 г. у Беластоку ўзнікае „Ніва“, Баляслаў Манкевіч з самага пачатку становіцца яе актыўным карэспандэнтам.

Здзіўляе дыяпазон і рознабаковасць зацікаўленняў гэтага чалавека. Шматлікія ягоныя мовазнаўчыя публікацыі, надрукаваныя ў „Ніве“ ў пяцідзесятых гадах і пазней, папулярнанавуковага характару. Ён жа і сааўтар супольна з З. Карпінскай-Тэпер хрэстаматыі для сёмага класа „Беларускае слова“ (Варшава, ПЗВШ, 1956). Імя Баляслава Манкевіча не чужое ўсім тым, хто хоць крыху займаўся ці вывучэннем беларускай мовы ці ўвогуле беларускай філалогіяй. Ягоныя навуковыя зацікаўленні ў галіне беларускай філалогіі былі практычна выкарыстаны пры апрацоўцы і дагэтуль адзінага ў Польшчы „Падручнага польска-беларускага слоўніка“ (Варшава, 1962).

Манкевіч рабіў карэктуру беларускай часткі навуковай працы выдатнага польскага вучонага Уладзіслава Курашкевіча „Zarys dialektologii wschodniosłowiańskiej“ (Варшава 1963), быў членам праграмнай камісіі школ з беларускай мовай навучання, старшынёй экзаменацыйнай камісіі па беларускай мове ў дэпартаменце МУС, рэдактарам праграм па навучанні беларускай мовы ў Міністэрстве асветы, дзейнічаў у БГКТ.

У 1961 г. Баляслаў Манкевіч пераходзіць на працу ў Цэнтральны Саюз ашчадна-пазыкавых кааператываў у якасці кіраўніка аддзела, у якім працуе ён аж да 1971 г. да адыхода на пенсію. І на гэтай пасадзе праяўляе ён сваю надзвычайную актыўнасць. У 1964—1971 г.г. „Poradnik SOP“ друкуе звыш сарака ягоных публікацый, звязаных з гэтай спецыяльнасцю. Апрацаваная ім жа новая сістэма працэнтавых табеляў палягшае працу ў кааператыўных банках і прыносіць у той час мільённыя зберажэнні. У 1974 г. у сааўтарстве з В. Паўлякам выходзіць ягоная кніжка, звязаная з яго апошняй прафесіяй: „Sto lat Banku Spółdzielczego im. Stefczyka w Grójcu 1873—1973“. Так як і ў час маладосці, застаўся ён верны барацьбе з алкагалізмам, і яшчэ ў 1974—1985 г.г. быў старшым рэферэнтам у Грамадскім проціалкагольным камітэце.

Бываюць людзі, якія апагей сваіх творчых магчымасцяў раскрываюць у час, калі адыходзяць ужо на пенсію. Да іх ліку належыць і Баляслаў Манкевіч. Наогул нячаста гэта здараецца. Тым не менш не можа не здзіўляць кожны такі факт чалавечай стойкасці і жыццяздольнасці. Тым больш, што, як мне здаецца, якраз у гэты час Баляслаў Манкевіч заваяваў сабе найбольш трывалае месца ў беларускай і польскай мастацкай культуры. Перакладчыцкая стыхія, якая авалодала ім яшчэ ў пяцідзесятых гадах, цяпер раскрылася ў ім ва ўсю ў мастацкай форме.

Улюбёным аўтарам Баляслава Манкевіча стаў беларускі сучасны пісьменнік, глыбокі псіхолаг і знаўца беларускай вёскі Іван Пташнікаў. У 1975 г. у яго перакладзе выходзіць на польскай мове кніжка Пташнікава „Лонва“, праз два гады „Тартак“, а затым у 1979 г. аповесць „Найдорф“ (у польскім перакладзе „Płonące wzgórze“).

Гэтым, аднак, не абмяжоўваецца мастацкая перакладчыцкая дзейнасць Баляслава Манкевіча. У 1989 г. Лодзінскае выдавецтва разам з мінскім Выдавецтвам „Юнацтва“ выдаюць нарысы польскіх і беларускіх аўтараў „Mali bohaterowie wielkiej wojny“, другая частка якіх складаецца якраз з ягоных перакладаў. І толькі цяперашняя капіталістычная рэчаіснасць, у якой няма месца на культуру, перашкодзіла далейшай творчай актыўнасці Баляслава Манкевіча. Лодзінскае выдавецтва сарвала з ім умову на выданне апавяданняў Анатоля Кудраўца „Zaduszki“, якія і дагэтуль ляжаць неапублікаванымі і ў пэўным сэнсе знеахвочвае заслужанага перакладчыка да далейшай працы.

Маладыя наогул не памятаюць пра старых. Пра юбілей 85-годдзя Баляслава Манкевіча, які прайшоў у мінулым годзе, забылася і Літаратурнае аб'яднанне „Белавежа“ і „Ніва“, якой ён у свой час быў такім актыўным карэспандэнтам. Сёння ў дзень ягонага 86-годдзя жадаем Баляславу Манкевічу моцнага здароўя, шчасця ў асабістым жыцці, радаснай сілы і надалей такой жа бадзёрасці ў далейшай творчай дзейнасці на ніве айчыннай культуры.

**Юры Трачук**

## НАША ЗЛЯЎНЯРКА

10 гадоў зляўняркаю ў Зубаве была Ніна Якімюк. Жыве яна з мужам Сцяпанам і яго маці на гаспадарцы ў Зубаве. У іх трох сыноў. Усяляк даводзілася, спалучаючы працу зляўняркі з працай на гаспадарцы, ды і людзям не заўсёды дагодзіш. Ніна Якімюк старалася, аднак, свае абавязкі выконваць добрасумленна. Ад студзеня гэтага года яна хварэе: ляжала ў бальніцы ў Беластоку, цяпер у Бельску-Падляшскім. Жыхары Зубава і з хутароў удзячны ёй за добрую працу і жадаюць добрага здароўя.

**Ж. М.**




**МАР'Я** (Гродзенская вобласць), 52 гады. Сярэдняга росту, нятоўстая. Абсалютна адзінокая (нядаўна памерлі яе сястра і маці), замужам ніколі не была. Нядрэнная гаспадыня. Полька, каталічка. Хоча пазнаёміцца з добрым, звычайным чалавекам (веравызнанне і нацыянальнасць не маюць значэння).

НІНА АМЕЛЬЯНЮК
# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

## IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. ЛЕКСІКАЛОГІЯ.

### 4. Амонімы.[1]

У мове ёсць словы, якія маюць аднолькавае гучанне, але рознае значэнне. Такія словы называюцца *амонімамі* (тэрмін грэчаскага паходжання: *homos* — аднолькавы і *onyma* — імя, значыць — аднолькава названы), напр.: *аўсянка* — аўсяныя крупы і птушка, *міна* — выраз твару і зброя і г.д.

Амонімы падзяляюцца на: лексічныя *(амонімы)*, марфалагічныя *(амаформы)*, фанетычныя *(амафоны)*, празадычныя *(амографы)*.

*Лексічныя амонімы* — гэта словы, якія належаць да адной і той жа часціны мовы і супадаюць у вымаўленні і напісанні. Гэтае супадзенне можа выступапь ва ўсіх граматычных формах, або толькі ў некаторых. У сувязі з гэтым лексічныя амонімы падзяляюцца на дзве падгрупы: *поўныя лексічныя амонімы і няпоўныя лексічныя амонімы.*

Поўныя лексічныя амонімы сустракаюцца пераважна сярод назоўнікаў дзеясловаў[2], напр., *тур* — першабытны дзікі бык і этап гульні, спаборніцтва, адзін круг танца; *варочаць* — аддаваць пазычанае і пераварочваць з боку на бок.

Няпоўныя лексічныя амонімы супадаюць у гучанні і напісанні толькі ў асобных граматычных формах. Сярод іх выдзяляюцца:

— назоўнікі, якія адрозніваюцца граматычнай катэгорыяй ліку, напр. *бор* (стары сасновы лес) — *бары* (множны лік) і *бор* (хімічны элемент; не мае множнага ліку), *латы* (жэрдкі, якія кладуцца ўпоперак крокваў) — *лата* (адзіночны лік) і *латы* (металічныя даспехі старажытнага воіна; не мае адзіночнага ліку). У сувязі з гэтым супадаюць яны толькі ў склонавых формах адзіночнага ліку або толькі множнага ліку;

— назоўнікі, якія адрозніваюцца граматычнай катэгорыяй роду і таму супадаюць толькі ў некаторых формах адзіночнага і множнага ліку, напр. *люстра* (адшліфаванае шкло, у якім адбіваюцца прадметы; ніякі род), і *люстра* (падвесны асвятляльны прыбор; жаночы род);

— назоўнікі, якія адрозніваюцца граматычнай катэгорыяй адушаўлёнасці — неадушаўлёнасці і ў сувязі з гэтым іх формы не супадаюць у вінавальным склоне адзіночнага і множнага ліку або толькі множнага, напр.: *лісічка* (маладая ліса) — *убачыла лісічак* і *лісічка* (грыб) — *знайшла лісічкі;*

— назоўнікі, якія супадаюць ва ўсіх склонавых формах за выключэннем роднага, дзе ў залежнасці ад значэння адны з іх маюць канчатак *-а*, а другія *-у*, напр.: *выраз* (выразанае месца) — Р. *выраза* і *выраз* (моўны зварот) — Р. *выразу;*

— некаторыя дзеясловы, якія супадаюць не ва ўсіх граматычных формах, напр.: *даслаць* (выслаць недасланае) — *дашлю, дашлем, дашлём; даслаў, даслала, дасл*а*лі* і *дасл*а*ць* (скончыць слаць што-небудзь) — *дасцялю, дасцелеш, дасцелем; даслаў, даслала, даслалі*[3].

Прычыны ўзнікнення лексічных амонімаў розныя:

— адны ўзніклі ў выніку таго, што супалі ў напісанні і гучанні словы, утвораныя ад розных каранёў пры дапамозе розных суфіксаў, напр.: *надрабіць* (павялічыць вязаннем што-небудзь),: *надрабіць світар* — *(над+рабіць)* і *надрабіць* (разбіць на дробныя часткі) — *(на+драбіць);*

— іншыя ўзніклі таму, што супала спрадвечнае беларускае слова і запазычанае, напр. *клуб* (шарападобная маса пылу) і *клуб* (1. арганізацыя, якая аб'ядноўвае людзей пэўнай сацыяльнай групы, 2. будынак, памяшканне — з англійскай мовы *club);*

— некаторыя ўзніклі ў сувязі з супадзеннем у напісанні і вымаўленні слоў, запазычаных з адной мовы ці з розных моў, напр.: *гіпербала* (мастацкі прыём; ад грэчаскага слова *hyperbole* — перабольшванне) і *гіпербала* (крывая лінія ў матэматыцы; ад грэчаскага слова *hyperballo* — пераходжу праз што-небудзь), *бак* (пасудзіна для вадкасці: ад французскага слова *bac)* і *бак* (насавая частка верхняй палубы судна; ад галандскага слова *bak);*

— асобныя амонімы ўзніклі ў выніку распаду палісеміі, г.зн. у выніку таго, што далёка разышліся паміж сабой значэнні мнагазначнага слова, напр. *каса* (доўгія заплеценыя валасы; сельскагаспадарчая прылада; доўгая вузкая мель, якая ідзе ад берага);

— некаторыя складанаскарочаныя словы, утвораныя ад розных словазлучэнняў, супалі ў напісанні і вымаўленні, напр. *камдыў* (камандзір дывізіі і камандзір дывізіёна), *КП* (камандзір палка, камандны пункт, кантрольны пункт, камсамольскі пражэктар)[4].

---

[1]. Літаратура: В. П. Красней, Лексіка і фразеалогія беларускай мовы. Мінск 1982, с. 32-48; В. П. Красней, У. М. Лазоўскі, І. М. Шчарбакова, Сучасная беларуская мова. Лексікалогія. Фразеалогія, Мінск 1984, с. 20-27.

[2]. В. П. Красней, Лексікалогія... с. 33.

[3] Там жа, с. 33-34.

[4] Там жа, с. 34-35.

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка, я з ім пазнаёмілася, калі была на забаве. Прыехаў у нашу вёску з аркестрам, які падыгрываў да танцаў. Быў такі прыстойны, што дзяўчаты больш круціліся каля аркестра, чым танцавалі. Спадабаўся ён і мне. Ад таго часу ён пачаў прыязджаць да мяне, бо жыў у суседняй вёсцы. Неўзабаве я зацяжарыла. Трэба было браць шлюб. Вяселле згулялі хутка, але пасля вяселля мой хлопец раптоўна змяніўся.

Усё яму ў нас не падабалася, а да цяжкай працы быў непрывыкшы. Намовіў мяне выехаць у Беласток. Знаёмыя дапамаглі нам наняць кватэру. І тут у горадзе нарадзілася наша дзіця. Пасля нараджэння дачкі мой муж пачаў больш разглядацца па баках чым быў у хаце. Дапамагаць не любіў, але вельмі любіў кампанію. Я была закахана ў яго надалей і ўсё гэта пераважвала вельмі балюча. Пачаў прападаць на некалькі дзён, тлумачачыся, што паехаў іграць на нейкае вяселле. Аднак жа грошай з гэтых вяселляў я бачыла ўсё менш. Вяртаўся дахаты як ні ў чым не бывала, а я была ў роспачы.

Не верыла б я, каб сказаў мне гэта нехта чужы. Але сказала мне мая родная сястра, і я ёй веру. Быццам ездзіць ён не на вяселлі халтурыць, а да дзяўчыны ў іншую вёску, з якой ён таксама пазнаёміўся на вясковай забаве. Сэрца маё рвецца на часткі, але не магу падаць на развод. Усё думаю, што тут зрабіць, як вярнуць яго да мяне. Гэта ж было такое каханне...

З другога боку, думаю, што калі б ён заангажаваўся сур'ёзна, дык адышоў бы ад сям'і... Я нават пачала ў яго выпытваць пра тую дзяўчыну. А ён толькі ўсміхаецца і гаворыць, што ўсё гэта няпраўда.

Аднойчы прыйшоў са сваім калегам. Выпілі яны паўлітра і разгаварыліся. Я пры гэтым не была, але чула з другога пакоя, як мой муж „хваліўся" сваёй жонкай, гэта значыцца мною. Што, маўляў, я такая добрая, што ўсё яму дарую. Што ён можа не прыйсці дахаты нават пару дзён, а я і так нічога не скажу, з хаты не выганю, у крайнім выпадку крыху паплачу і ўсё. Што ён можа прыводзіць сюды сваіх сяброў і піць з імі, а нават калі б прывёў дзеўку, дык я б таксама нічога не сказала.

Гэтая размова давяла мяне да адчаяння. Як можа ён мяне так таптаць? Ці я ўжо наогул не лічуся ў яго чалавекам?.. Не ведаю, Сэрцайка, што можна зрабіць, каб затрымаць яго пры сабе. Мо зрабіць так, каб убачыў ён мяне калі-небудзь з нейкім мужчынам? Вось, думаю, каб ішла я з нейкім прытуліўшыся ці абняўшыся, а ён гэта ўбачыў. Вось бы роспач яго ўзяла; мо адразу перастаў бы глядзець на іншых! Як ты думаеш, Сэрцайка?

**Юстына**

Юстына! Відаць, такія думкі прыйшлі табе ў галаву крыху запозна. Трэба было так ад пачатку, як толькі ўбачыла, што ён ходзіць „на бокі". У многіх выпадках такі „халодны душ" дапамагае вельмі добра. Мужчына ўмомант цверазее і пачынае хадзіць па зямлі. Пачынае разумець, што так, як ён робіць, кожны патрапіць. Ды толькі не кожны хоча.

Аднак жа метад гэткі напэўна дапамагае, калі ёсць яшчэ пачуццё. Мусіш выважыць, ці кінецца ён назад да цябе пасля таго, як убачыць з іншым, ці проста адыдзе ад цябе. Бо, як вядома, джэнтльмен проста так не адыходзіць, джэнтльмен чакае аказіі. А ты яму гэтую аказію хочаш даць.

Я табе, Юстынка, на вушка нешта скажу: ты гэтага не рабі напаказ, ты зрабі гэта напраўду. І калі тады муж адыдзе, дык прынамсі крыўдна не будзе. А калі кахае — застанецца, нягледзячы на ўсё.

**Сэрцайка**

# КУХОННЫЯ ПАРАДЫ

## Соусы

### СОУС З ЖАЎТКАМІ

На 1 шклянку булёну з ялавічыны ўзяць 1 лыжку масла, 3/4 лыжкі мукі, 2 жаўткі, лімонны сок, 2 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі, соль, крыху цукру.

Масла расцерці ў каструльцы, дадаць прасеяную муку, перамяшаць, развесці булёнам. Падагравапь, мяшаючы, пакуль не закіпіць, зняць з агню. Жаўткі размяшаць з невялікай колькасцю астуджанага соусу і, збіваючы, спалучыць з гарачым соусам. Дадаць солі, цукру і сок з цэлага лімона. Перамяшаць з пятрушкай.

Падаюць гэты соус да варанай ці печанай рыбы і варанай птушкі.

### ІТАЛЬЯНСКІ СОУС

На паўкілаграма памідораў узяць 3 лыжкі алею, 3 зубкі часнаку, 2 цыбуліны, паўшклянкі белага сухога віна, некалькі лісткоў базыліі, 1 галінку эстрагону, соль, перац.

Памідоры памыць, нарэзаць, закіпяціць. Варыць так доўга, пакуль не выпарыцца палавіна вадкасці. Тады працерці праз сіта. Цыбулю і часнок абабраць і як мага дробненька пасячы, крыху падсмажыць на алеі. Базылію і лісткі эстрагону памыць, дробна пасячы, дадаць да падсмажанай цыбулі з часнаком, заліць віном. Варыць некалькі мінут, пасля чаго спалучыць з памідорным перацёрам, перамяшаць, закіпяціць. Дадаць солі і перцу.

Падаюць гэты соус з макаронам і кашай.

### СОУС З БАЗЫЛІІ

На 3 жмені лісткоў свежай базыліі трэба ўзяць 4 зубкі часнаку, паўшклянкі алею, 10 дэкаў дробненька сцертага жоўтага сыру, соль.

Лісце базыліі памыць, асушыць, разлажыўшы на палатне або сіце, дробна пасячы. Абабраць і пасячы часнок, а тады разам з базыліяй стаўчы ў драўлянай ступцы ці ў місцы. Расцерці так, каб атрымалася аднастайная маса, і спалучыць гэту масу з расцертым сырам. Расціраючы дадаваць паволі алей. Калі атрымаецца густы, гладкі соус, дадаць солі.

Падаюць соус да мучных страў, а перш за ўсё да макарону.

### СОУС З КРУТЫХ ЯЕК

На 3 крутыя яйкі трэба ўзяць 1 лыжку хрэну, паўшклянкі алею, паўшклянкі булёну, лімонны сок, 2 лыжкі дробна пасечанай зялёнай цыбулькі, 2 лыжкі пасечанага эстрагону, соль.

Абабраць яйкі, выняць з іх жаўткі. Бялок дробна пасячы, а жаўткі працерці праз сіта. Жаўткі расціраць у місцы, дадаючы халодны булён і алей. Атрыманы густы соус перамешваем з пасечанымі бялкамі, эстрагонам, зялёнай цыбулькай і хрэнам. Дадаем па смаку лімоннага соку, солі і цукру.

Падаюць гэты соус да вяндліны.

**Гаспадыня**

# ВЕР-НЕ-ВЕР

**Сніцца мне такі сон. Я, суседка мая і сусед едзем на аўтобусе. Праз нейкі час аўтобус затрымаўся, мы выйшлі з яго. Я засталася на месцы, а сусед з суседкаю падыйшлі да дрэва і ўлезлі на яго. Стаяць на галінках і трымаюцца за ствол дрэва. Дрэва гэта было без лісцяў, але не высахшае, а выглядала толькі так, як выглядае дрэва восенню, калі ападае з яго лісце. Я крычу, каб хутчэй злазілі, зараз жа прыедзе аўтобус, а нам жа трэба ехаць далей. Суседка саскочыла з дрэва, а яе муж застаўся. У той момант пад'язджае не аўтобус, а фурманка, у якую запрэжаны гняды конь. На фурманцы нікога і нічога не было, толькі было паложана сядзенне. Суседка села і паехала.**

**Марыя**

**Марыя, нешта не надта добрае для тваіх суседзяў прадвяшчае гэты сон. Сусед з суседкаю ўлезлі на дрэва, быццам бы хацелі нечага дабіцца. Калі б дрэва было цвітучае, абазначала б гэта для іх поспех, радасць, дабрабыт; калі б было з пладамі — абазначала б прыбытак, калі б было дрэва ссечанае — абазначала б страту, пакрытае снегам — сямейную непрыемнасць, але тваё дрэва было без лісцяў, голае, і гэта абазначала б, бадай, для твайго суседа цяжкую старасць. Твая суседка злезла з дрэва і паехала на фурманцы, што абазначае і для яе нейкую хісткую, няпэўную справу. Можа, звязана яна са здароўем мужа.**

**Астрон**

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

[illegible]р Юрэвіч

## БОЙ З ПАВУКОМ

Быў пачатак чэрвеня, была нядзеля. Лукашок прачнуўся раней за ўсіх, бо чакаў, што сёння прыедзе з горада мама.

І яна неўзабаве з'явілася. Зайшла ціхенька, каб не разбудзіць усіх.

— А ты, Лукашок, не спіш? — спыталася. — Чаму? Яшчэ ж рана.

— Я цябе, мамачка, чакаю, — адказвае хлопчык, соладка жмурачы вочы ад промняў сонца, што зазіраюць у вокны, падаюць на спінку канапкі, дзе ляжыць Лукашок. — Што-небудзь смачненькае прывезла?

— Смачненькае? — перапытала мама. — Не. Па смачненькае мы з табой пойдзем удваіх. Паснедаем і пойдзем у лес, на тую паляну, дзе ажно чырвона ад суніц.

— А што, у лесе ёсць такая сунічная паляна?

— Ёсць. Уставай, калі не спіцца. Пашукай кошычак, з якім летась па маліны хадзілі.

— Кошычак? — хітра перапытвае Лукашок. — Той, што па маліны хадзілі? Памятаю, — адказвае сам сабе. — Пайду пашукаю.

Лукашок кіруецца ў каморку, што пад лесвіцай, па якой ходзяць на мансарду дачы. Ён летась увосень хаваў туды кошык, павесіў на вялізны цвік, які ледзь увагнаў у сцяну тата.

Клямка зачынена на сучок. Ён дастае яго, і дзверы ціха рыпяць і адчыняюцца. Лукашок пераступае парог, азіраецца направа, налева. І во дзіва — кошык той як хто ахінуў кавалкам празрыстай марлі. „Што ж там прыхавана?" — падумаў Лукашок і ступіў крок наперад, пералез цераз кадушку ад капусты. Падняў руку, каб дастаць кошык. Але што гэта? Марля заварушылася, і па ёй папоўз вялізны руды павук з срэбным крыжам на спіне. Павукоў Лукашок не баіцца, але гэтага крыжака спалохаўся. Рука так і павісла ў паветры. Сэрца моцна затахкала ў грудзях.

Лукашку давялося адступаць. А куды? Ззаду кадушка, не павернешся. Яму стала раптам страшна, што гэты ненажэрны павук кінецца на яго. Хлопчык засланіў далонямі твар і адхіліўся назад, ажно прысеў на кадушку. Нага зашчамілася, не скрануць, нібы хто трымаў яе абцугамі. Хлопчыку яшчэ страшней стала. Але такі злаўчыўся, павярнуўся яшчэ больш, і нага выслабанілася. Лукашок пераступіў цераз кадушку.

**(Працяг на стар. 10)**



**Фота Я. Целушэцкага**

## Вершы Віктара Шведа

### ЗЯЗЮЛЯ

— Ці знаеш, дачушка, —
Спыталі малую, —
Якая птушка
Гнёзд не будуе?

— Гэта зязюля, —
Сказала Наташа, —
Яе зачынілі
Ў гадзінніку нашым!

### ЖЭНЯ ХРАПЕ СТРАШЭННА

— Чаму не ўзлюбіў, Мікола,
Сябру вернага са школы?
— Не люблю таму, што Жэня
Калі спіць, храпе страшэнна.
— Не абвінавачвай, Коля,
Калі з ім не спаў ніколі.
— Ён мне хроп пад нос упарта,
Седзячы за адной партай.

### МОЙ ТАК НЕ ПАТРАПІЦЬ

— Мой татулька смелы,
Добры паляўнічы,
Забіў адным стрэлам
Зайца і лісіцу!

— А мой дык не ўмее...
— Так страляць, як татка?
— Не, маю надзею
Ілгаць, як твой, гладка!

## ЛЕГЕНДЫ І ПАДАННІ

### КВЕТКА ПАПАРАЦІ

Гэта было даўным-даўно. Жыў адзін бедны селянін, і быў у яго сын, які пасвіў у багатых кароў. Адзін раз пасвіў ён каровы ў лесе, а гэта было перад Купалам. Лёг гэты хлопец адпачыць пад кустом і заснуў, а калі прачнуўся, то не ўбачыў ні адной каровы, усе разбрыліся па лесе. Страшна стала хлопцу. Не заходзячы дадому, пайшоў ён па лесе шукаць кароў. Ужо наступіла ноч. Ходзіць ён па лесе і нічога не памятае, дзе ён, як і што. Але роўна ў дванаццаць гадзін ночы ён убачыў, што нешта ў далечыні блішчыць. Ён пайшоў на гэты бляск і ўбачыў кветачкі, — гэта цвіла папараць. Калі ён дакрануўся рукой да папараці, то ўсе кветкі паападалі, а некалькі кветак яму папала ў лапці. У гэты час ён стаў адчуваць сябе свабодна, яму стала ўсё вельмі ясна.

Праз некаторы час пастух знайшоў сваіх кароў і пагнаў іх дамоў. Прыйшоўшы дамоў, ён разуўся і ўсе кветкі з лапцяў павыпадалі, і ён зноў аб усім забыўся.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКИХ

Авяр'ян Дзеружынскі

### ІГОЛКА

Я звычайная іголка,
Я не злючка,
Не калючка...
Я — іголка-
Памагалка,
Зашывалка,
Абшывалка,
А таксама
Вышывалка.

### ХЛЕБНАЯ СКАРЫНКА

Пахне
Хлебная скарынка
Цёплым ветрыкам,
Хваінкай,
Летнім дожджыкам
Грыбным,
Лугам,
Полем аржаным,
І асенняй пазалотай,
Ды натхнёнаю
Работай.

### СТРАКАТУХА

Мне сарока-стракатуха
Аглушыла трэскам вуха:
— Тары-тары,
Тары-тары,
Вунь насоўваюцца
Хмары...
— Ды крычыш ты дарма,
Палахлівых тут няма.
Я іду ў лясок,
Набяру суніц збанок.

## ДЭКЛАМАТАРСКІ КОНКУРС У НАРВЕ

Гмінная бібліятэка пад кіраўніцтвам пані **Алы Сяткоўскай** арганізавала беларускі дэкламатарскі агляд для вучняў пачатковых школ у гміне **Нарва.**

У конкурсе прыняло ўдзел 13 школьнікаў. Удзельнікі прадставілі для ацэнкі па адным вершы (найбольш было вершаў „белавежца" Віктара Шведа, як заўсёды на дэкламатарскіх аглядах для дзяцей), трапіўся адзін твор прозай. Журы конкурсу (доктар Тэрэса Занеўска, дацэнт Ян Чыквін, магістры Міра Лукша і Ян Грынявіцкі) на першае месца вылучыла **Марыёлю Паскробка** з Нарвы. Другое месца заняла **Кацярына Максімчук** з Трасцянкі, III — **Еля Саевіч** з Ласінкі. Спецыяльную ўзнагароду Яна Чыквіна атрымала **Юліта Баршчэўская** з Трасцянкі. Спадабаліся ўсе ўдзельнікі агляду — **Аліна Гайдук, Андрэй Монах, Аня Сухадола і Аля Паўлоўская** з Ласінкі (школа ў Ласінцы дасканала падрыхтавалася да гэтага конкурсу), **Гражына Ахрымюк** з Трасцянкі, **Кацярына Трыгубец** і **Эва Зіневіч** з Крыўца, **Дарота Янушкевіч** і **Рэната Паскробка** з Нарвы.

На заканчэнне конкурсу выступіў драмгуртok з **Ласінкі**, які пад апекай настаўніцы **Ніны Абрамюк** падрыхтаваў і прадставіў п'есу Валянціна Зуба „ЧВА".

Трэба пахваліць ініцыятыву гміннай бібліятэкі ў Нарве і заангажаванне яе кіраўніцтва ў беларускіх справах у практыцы. Варта заахвоціць да такіх самастойных культурных мерапрыемстваў іншыя бібліятэкі і школы.

**Міра Лукша**

## Малюнкі школьнікаў



*„Як я дапамагаю маме“. Аня Крышпінюк, II клас, школа ў Храбалах.*

**Іван Сенчанка**

### СЯРДЗІТЫ ЮРЧЫК

**Хлопчык сярдзіты, бо гуляць у брудную лужыну не пускаюць. Стаіць пасярэдзіне вуліцы і даказвае бабулі:**

**— Хаця пайду дадому, але не пайду ў двор; хаця пайду ў двор, але не пайду ў хату; хоць пайду ў хату, але не сяду за стол; хоць сяду за стол, але не буду есці; хоць буду есці, але не кіслы боршч, не галушкі рваныя, а варэнічкі ў масле, блінцы ў смятане!**

### ХЛЕБ СВЯТЫ

**Прынесла бабуля хлеб з магазіна. Каця не галодная была. Пакаштавала і аж нос зморшчыла:**

**— Фэ, які паганы!**

**Бабуля раззлавалася і пачала павучаць унучку:**

**— Так ніколі нельга гаварыць на хлеб. Калі ён чамусьці не падабаецца, кажуць: „Хлеб так нядобра выпечаны...“**

**— А Юрчык таксама не шануе хлеб, — насупілася Каця. — Не даеў на вуліцы кусок і кінуў на зямлю. Потым з Сяргеем пачалі яго футболіць...**

**— Ах, як непрыгожа! — разгневалася бабуля. — І сама так ніколі не рабі, і Юрчыку не дазваляй! Не даела — аднясі ў хлебніцу пакладзі, пазней даясі. А калі хтось кіне на зямлю — загадай падняць. І таптаць хлеб нельга. Хлеб дае людзям жыццё. Без хлеба ж — голад, смерць. Колькі ў свеце людзей памерла без яго! Хлеб святы.**

**Кацярына задумалася. Потым прытулілася да бабулі.**

**— Я больш ніколі не буду дрэнна казаць пра хлеб і не буду раскідаць яго. І Юрчыку не дазволю. Толькі не трэба злаваць на мяне. Прыгарні мяне...**

**Бабуля палажыла руку на галаву ўнучцы і прытуліла яе да сябе.**

**Пераклаў з украінскай мовы**
**В. Бабей**

Вершы пра родную мову

### СЯРГЕЙ КРЫВЕЦ

... Спакон вякоў пяе народ,
І песні б'юць жывой крыніцай.
Мы плыні тых крыштальных вод
Спяшым з прыемнасцю напіцца.
З грамадскіх сходзячы дарог,
Мы часта йдзем у цень дубровы
Грудзьмі прылегчы на мурог
І чэрпаць з гукаў роднай мовы.
Нектар жывога пачуцця:
Па з'явах у люстры гэтых водаў
Знаходзяць шлях свайго народу
У віры спрадвечнага жыцця...

Беларускія гульні

### АГАРОДНІК

**Апісанне гульні:** кожны з дзяцей называе сябе якой-небудзь агароднінай (рэпай, рэдзькай, цыбуляй, морквай, радыскай і г.д.) і становіцца ў круг. Адзін з дзяцей выбіраецца агароднікам. Ён выходзіць на сярэдзіну круга і стукае палкай аб зямлю. У яго пытаюцца:

— Хто там?
— Агароднік!
— За чым прыйшоў?
— За рэпай!

Пасля такога адказу ўсе вядуць карагод і спяваюць:

Зверху рэпа зялёная,
У сярэдзіне тоўстая,
К канцу вострая.
Хавае хвост пад сябе.
Хто да яе ні падыдзе,
Усялякі за віхор возьме.

Агароднік павінен адгадаць, хто з дзяцей назваў сябе рэпай. Калі ён адгадае, рэпа ўцякае, інакш агароднік зловіць яе і павядзе ў свой агарод.

**Правілы гульні:** агароднік не павінен ведаць, хто назваўся рэпай; адгадваць ён можа тры разы, калі неадгадае, яго мяняюць.

## Паглыбляй свае веды

### РЫСЬ

Рысь — гэта млекакормячая жывёла сям'і кашэчых, атрада драпежных звяроў. Жыве ў Еўразіі і Паўночнай Амерыцы.

Рысь жыве ў старых лясах з буралом і добра развітым падлескам. Пэўнага месца трымаецца толькі ў перыяд размнажэння, у астатні час перамяшчаецца ў пошуках корму. Рысь актыўная пераважна ноччу. Яе корм — зайцы, мышападобныя грызуны, птушкі; нападае на дробных капытных і драпежных, зрэдку на свойскіх жывёл.

Даўжыня цела рысі каля 100 см, маса 16-22(30) кг. Поўсць густая, мяккая, палевая ці рыжая, плямістая на спіне і нагах. Тулава кароткае, шчыльнае, ногі высокія, дужыя, вушы вялікія, вострыя, канчаюцца кутасікамі, на галаве бакі, хвост кароткі.

У шлюбны перыяд (люты-сакавік) самцы абзываюцца гучным крыкам. Рысь логава робіць пад вываратнямі, у ямах, у старых норах, пад абвіслымі галінамі елак і ў іншых месцах.

Палавая спеласць рысі — у двухгадовым узросце. Цяжарнасць — 9-10 тыдняў. Прыплод у маі-чэрвені — па 2-3(4) сляпыя кацяняці (пачынаюць бачыць на 12 дзень). Патомства выхоўваюць самка і самец. Рысі трапляюцца вывадкам да наступнай вясны.

## БОЙ З ПАВУКОМ

**(Працяг са стар. 9)**

„Трэба прагнаць павука з кошыка, — мільганула думка ў хлопчыка. — Але як? Во! Зламаю галінку з лісцем і пашкуматаю павуцінне, тады павук і ўцячэ“.

Гэтак і зрабіў. Адламаўшы галінку бэзу, вярнуўся ў каморку. А дзе ж павук? Збег? Не, ён вісеў на ледзь прыкметнай павуцінцы. Лукашок прыцэліўся, зажмурыўся і пачаў цаліць галінкай па той павуцінцы. Раcплюшчыў вочы і ўбачыў, што крыжаносец знік.

„А можа, схаваўся ў кошыку? — падумалася хлопчыку. — Пачну здымаць, а ён кінецца мне на руку, пачне кусацца...“ Лукашок не ведаў, што павук не кусаецца. Ён толькі страшны з выгляду.

Нарэшце абапёрся каленам на край кадушкі, каб зняць кошык. Пад ім, стаіўшыся ў куточку, сядзеў павук. А на дне кошыка ляжала добрая жменя высахлых мух. Гэта былі павуковыя ахвяры.

„Глядзі, які ён маладзец, — пахваліў у думках павука Лукашок. — Гэтулькі мух задушыў, ні мухалоўкі не трэба, ні ліпучак... І нашто я пабурыў павукова гняздо? Няхай бы рабіў сваю карысную справу, а я без кошыка мог бы абысціся, Дарэмны бой...“

## Вясёлы куточак

### З БАЛГАРСКАГА ГУМАРУ

— Чаму ж ты такі радасны?

— Мяне тата пабіў.

— І гэта таму ты такі вясёлы?!

— Яшчэ таму, што калі мяне тата біў, я незнарок выліў атрамант на абрус, і цяпер бацьку дастанецца ад мамы!

## Вучнёўская творчасць

### ЛЕТНІЯ КАНІКУЛЫ

Радуюцца дзеткі,
Калі лета прыходзіць.
Тады выязджаюць
На Мазуры ці ў горы.
А хто дома застаецца,
Той у мяч гуляе
Ці ў іншыя ігры.

**Алік Сцепанюк,**
**школа ў Малінніках**

Легенды нашай зямлі

### ЧАМУ ВАРОНА КАРКАЕ

Даўным-даўно зязюля падкладала свае яйка ў вароніна гняздо. Усім вядома, што зязюля гнязда не ўе і яек не выседжвае.

Варона нічога не прыкмеціла і з мацярынскай клапатлівасцю сядзела на яйках.

Нарэшце лупінкі яе пачалі трэскацца і з іх паяўляліся галоўкі маленькіх варанят.

Здзівілася варона, калі ўбачыла, што з аднаго яйка вылупілася асаблівае вараня. Яна радавалася, што нарадзіўся такі прыгожы сынок. Лепш і часцей карміла яго і называла панічыкам. Панічык рос і прыгажэў.

Аднойчы, калі панічык быў ужо вялікі, варона прынесла спажыву і пачала карміць дзяцей.

Панічык-зязюля кінуўся на варону-матку з кіпцюрамі і драпежнай дзюбай. Ледзь, бедненькая, вырвалася з яго кіпцюроў, задыхалася. Яна адляцела на суседнюю галінку і пачала галасіць: „Кат! Кат! Кат!“

З той пары і да гэтага часу варона не перастала каркаць.

*(З кнігі „Легенды і паданні“)*


**Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка“.**

# TV TELEWIZJA WARSZAWA

## PIĄTEK, 21.06.1991 r.

### PROGRAM I

8.00 „Dzień dobry”
9.00 Wiadomości poranne
9.10 „Domowe przedszkole”
9.35 „Inspektor Gadget” — serial anim. dla dzieci
10.00 J. angielski dla dzieci
10.05 „Szkoła dla rodziców”
10.30 „Chłopi” — serial TP
11.20 Aktualności telegazety
15.55 Program dnia
16.00 Wiadomości popołud.
16.10 „Video-Top”
16.20 Dla dzieci: „Lizak”
16.45 „Ciuchcia”
17.05 J. angielski dla dzieci
17.15 Teleexpress
17.35 „Raport” — Indie
18.00 „Biznes po francusku” (5)
18.10 „Chłopi” (12)
19.00 Od „Kapitału” do kapitału
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 „Miasteczko Twin Peaks” (8) — serial USA
21.40 Zespół public. „Zapis” przedstawia
22.20 „New York, New York”
22.50 Wiadomości wieczorne
23.05 Studio Sport
23.35 Weekend w „Jedynce”
23.45 Europejska Noc Jazzu — transmisja (Warszawa—Wiedeń)

### PROGRAM II

7.55 Powitanie
8.00 CNN — Headline News
8.10 Język niemiecki (20)
8.40 „Santa Barbara” — serial USA
9.25 Mag. TV Śniadaniowej
10.00 CNN — Headline News
16.45 Powitanie
17.00 „Bez dachu nad głową” — film fab. prod. USA
17.50 „Za kierownicą”
18.00—21.30 Programy regionalne
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 „Lekarze bez fartuchów” (5) — serial ang.
22.45 „Nocnym wzrockiem” — magazyn Marka Niedźwieckiego
23.30 CNN — Headline News

## SOBOTA, 22.06.1991 r.

### PROGRAM I

7.00 „W sobotę rano”
7.45 „Tydzień na działce”
8.15 „Na krawędzi” — rep.
8.35 „Ziarno”
8.55 Program dnia
9.00 Wiadomości poranne
9.10 „5—10—15” — pr. dla dzieci i młodzieży oraz film z serii: „Było sobie życie” (24)
10.35 J. angielski dla dzieci
10.40 „Na zdrowie”
11.00 „Od tamtamu do sputnika”
11.25 TV Koncert Życzeń
11.55 Aktualności telegazety
12.00 „Siódemka” w „Jedynce”
13.30 „U siebie” — magazyn mniejszości narodowych
14.00 Walt Disney przedstawia
15.15 „Szkoła pod żaglami”
15.45 „Z Polski rodem” — magazyn polonijny
16.15 Film dokumentalny
16.45 „Rokendroler” — pr. poświęcony polskiej muzyce rockowej
17.15 Teleexpress
17.35 „Tele-audio-video”
18.00 „Sprawa Platerów” — reportaż
18.20 „Butik”
18.50 „Z kamerą wśród zwierząt”
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 „W poszukiwaniu deszczowego drzewa” (2) — film fab. prod. USA
21.35 Zespół „Zapis” przedstawia: „Dwie Ojczyzny” — film dok.
22.05 Sportowa sobota
22.35 Wiadomości wieczorne
22.55 Standardy jazzowe — gra A. Dudkiewicz i T. Szukalski
23.15 „Sędzia z Teksasu” — film fab. prod. USA

### PROGRAM II

7.25 „Kaliber '91”
7.55 Powitanie
8.00 CNN — Headline News
8.10 „Kapitan Planeta i Planetarianie” — serial USA
8.35 Mag. TV śniadaniowej
9.15 „Mądrej głowie” — program rozrywkowy
9.45 Mag. TV śniadaniowej
10.00 CNN — Headline News
10.15 Mag. TV śniadaniowej
10.40 „Sekretny dziennik Adriana Mole'a lat 13 i 3/4 — serial ang. (3)
11.05 „Tacy sami” — wydanie dla niesłyszących
11.25 „Dookoła świata”: „U Majów i Azteków”
11.55 „Video-Junior”
12.25 Klub „Yuppies” oraz film z serii „Przygody Supermana”
13.25 „Zwierzęta świata”: „Morze Martwe” (4) — serial dok. prod. ang.
13.55 VI Warszawskie Spotkania Muzyczne
14.25 Ze wszystkich stron — Aleksij II, Patriarcha Moskwy i Wszechrosji
14.55 Program dnia
15.00 „Sezam” — Janusz Tadeusz Stanisławski
15.30 „Santa Barbara” — serial USA
17.00 „Studio Tajemnic”
17.30 Wzrockowa lista przebojów Marka Niedźwieckiego
18.00 Program lokalny
18.30 Wielka gra — teleturniej
19.30 Galeria „Dwójki”
20.00 „Hale i Pace” — ang. program rozrywkowy
20.30 Koncert Świętojański w wykonaniu Capelli Gedanensis
21.30 Panorama dnia
21.45 „Słowo na niedzielę”
21.50 „Ruby i Oswald” (1) — film fab. prod. USA
23.10 CNN — Headline News

## NIEDZIELA, 23.06.1991 r.

### PROGRAM I

7.00 „Witamy o siódmej”
7.30 „Kraj za miastem”
7.55 „Po gospodarsku”
8.10 „Od niedzieli do niedzieli”
8.55 Program dnia
9.00 Teleranek oraz film z serii „Kamienna tajemnica” (10)
10.25 J. angielski dla dzieci
10.30 „Przygody roślin” (2) „Śmierć rodzi życie” — franc. serial dok.
11.00 „Notowania, czyli co się opłaca rolnikowi”
11.25 „Ściśle jawne” — wojsk. pr. public.
11.50 Mieczysław Horoszowski gra w Carnegie Hall w Nowym Jorku
13.10 Teatr dla dzieci: „Niezwykłe przygody dr. Dolittle i jego przyjaciół” (3 — ost.)
14.05 TV Koncert Życzeń
14.35 Magazyn „Morze”
15.00 Finał Pucharu Polski w piłce nożnej
16.40 „Telewizjer”
17.15 Teleexpress
17.35 Tel. Teatr Rozmaitości: E. Labiche — „Szczęśliwi we troje”
18.35 Circom Regionale prezentuje
19.00 Wieczorynka
19.30 Wiadomości
20.05 „Maria Curie” (2) — serial prod. pols.-franc.
21.40 „7 dni — świat”
22.10 Sportowa niedziela
22.40 Wiadomości wieczorne
22.55 „Rewizja nadzwyczajna”

### PROGRAM II

7.45 „Przegląd tygodnia” (dla niesłyszących)
8.20 Film dla niesłyszących — „Maria Curie” (2)
9.50 Powitanie
10.00 CNN — Headline News
10.10 „Jutro Poniedziałek”
10.30 Program lokalny
11.00 „Dawnych wspomnień czar z Karoliną Lubieńską (2)
11.30 „Wspólnota w kulturze”
12.00 „Mistrzowie współczesnego kina” — Witold Adamek
12.30 „Express Dimanche”
12.45 Gość „Dwójki” — Janusz Kapusta
13.00 Polska Kronika Filmowa
13.10 Sto pytań do...
13.50 „Pieśni do przyjaciela” — program poetycko-muzyczny
14.15 Kino Familijne: „Namiot” — film fab. prod. CSRF
15.10 Muzyczna Antena „5”
15.35 „Polacy” Lidia Ciołkosz — film dok.
16.00 „Wędrówki ludów nad Pacyfikiem” (2) „Łowcy zbieracze” — austral. serial dok.
16.55 Program dnia
17.00 Studio Sport
17.30 „Bliżej świata”
18.30 „Za chwilę dalszy ciąg programu”
19.00 „Wydarzenie tygodnia”
19.30 Galeria „Dwójki”
20.00 Przeboje Bogusława Kaczyńskiego — Ewa Bandrowska-Turska
21.00 Wrocław na antenie „2”
21.30 Panorama dnia
21.45 „Miłość matki” (4 — ost.) — serial ang.
22.40 Polska Baba — magazyn Danuty Rinn
23.40 CNN — Headline News

## PONIEDZIAŁEK, 24.06.1991 r.

### PROGRAM I

16.10 Aktualności telegazety
16.15 Program dnia
16.20 M. E. w koszykówce Rzym '91: Polska — Bułgaria
17.05 „Video-Top”
17.15 Teleexpress
17.35 „Encyklopedia II wojny światowej”
18.00 Business po francusku (6) — Sprzedaż
18.10 „Kupić, nie kupić”
18.30 „Alf” (14) — serial USA
18.55 „Świat w oczach Lema”
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 Teatr TV: J. Słowacki — „Maria Stuart”
21.40 „Inni ludzie” — „Przyszliśmy do Grabarki” — rep.
22.15 „Zawsze po 21-szej”
23.00 Wiadomości wieczorne
23.15 Ring — Rock in Gospel (2) „Good News Festiwal”
23.40 BBC — World Serwice

### PROGRAM II

16.45 Powitanie
17.00 „Czas akademicki”
17.30 „Kusza” — serial USA
18.00 Program lokalny
18.30 Przegląd Kronik Filmowych
19.00 „Ojczyzna — polszczyzna”
19.15 Zapraszamy do „2”
19.30 Chopiniana — recital na Zamku Ostrogskich — gra Rinko Kobayshi (Japonia)
20.00 Mój świat — Bernard Marguerétte
20.30 „Bez emocji” — program public.
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 „Wszystkich, których kochałem” (8 — ost.)
22.55 „Rozmowy o cierpieniu”
23.10 CNN — Headline News

## WTOREK, 25.06.1991 r.

### PROGRAM I

8.00 „Dzień dobry”
9.00 Wiadomości poranne
9.10 Teleferie najmłodszych ze Smokiem
9.35 „Przygody Misia Ruxpina” — serial anim. ang.
10.00 „Inspektor Gadget” — serial anim. dla dzieci
10.25 „Gotowanie na ekranie”
10.50 „Da latarni morskiej” (2 — ost.) — ang. film fab.
11.55 Aktualności telegazety
17.00 Program dnia
17.05 „Video-Top”
17.15 Teleexpress
17.35 „Laboratorium”
18.00 „10 minut”
18.10 „Aleksander Patkowski — twórca regionalizmu polskiego — film dok.
18.40 W Sejmie i Senacie
19.00 Skarbonka Jacka Kuronia
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 „Do latarni morskiej” (2 — ost.) — ang. film fab.
21.00 „Listy o gospodarce”
21.30 „Telemuzak” — magazyn muzyki rozrywkowej
22.10 Wiadomości wieczorne
22.25 M. E. w koszykówce mężczyzn Rzym '91: Jugosławia — Polska
23.10 „Rozmowy intymne” — Rodzice w oczach dzieci
23.35 BBC — World Serwice

### PROGRAM II

7.55 Powitanie
8.00 CNN — Headline News
8.10 Jezyk niemiecki (21)
8.40 „Santa Barbara”
9.25 Mag. TV śniadaniowej
10.00 CNN — Headline News
10.15—16.45 Przerwa
16.45 Powitanie
17.00 „Nova” (6 — ost.)
18.00 Program lokalny
18.30 Modlitwa wieczorna
18.50 Seans filmowy
19.30 „Z ziemi polskiej” — „Kierunek Brazylia” — film dok.
20.00 „Schronienie” — film dok. prod. franc.
21.00 Wywiady I. Dziedzic
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 Akademia Polskiego Filmu: „Godziny nadziei”
23.25 CNN — Headline News

## ŚRODA, 26.06.1991 r.

### PROGRAM I

8.00 „Dzień dobry”
9.00 Wiadomości poranne
9.10 Teleturniej o morzu i sprawnościach żeglarskich — z Gdańska
9.35 „Jeden rok w pewnej szkole” (22) — serial czech.
10.00 „Inspektor Gadget” — serial anim. dla dzieci
10.25 „Przyjemne z pożytecznym”
10.50 „Dynastia” (89)
11.40 Aktualności telegazety
11.25—17.00 Przerwa
17.00 Program dnia
17.05 „Video-Top”
17.15 Teleexpress
17.35 „System” — publicystyka ekonomiczna
18.00 „Biznes po francusku” (7)
18.10 Klinika zdrowego człowieka — Noworodki
18.30 „Skarbiec” — magazyn historyczny
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 „Dynastia” (89)
20.55 Zespół public. „Zapis” przedstawia — „Petenci”
21.25 Studio Sport — M. E. w koszykówce mężczyzn Rzym '91: Polska — Hiszpania
22.10 Wiadomości wieczorne
22.25 „Art” — magazyn kulturalny
22.45 „Rozmowy z Nikodemem”
23.15 BBC — World Serwice

### PROGRAM II

7.55 Powitanie
8.00 CNN — Headline News
8.10 Język niemiecki (22)
8.40 „Czterdziestolatek” (21 — ost.) — serial TP
9.35 Mag. TV śniadaniowej
10.00 CNN — Headline News
16.45 Powitanie
17.00 „Engagement” — film fab. prod. pol.
18.00 Programy lokalne
18.30 „M.A.S.H.” — serial USA
19.00 „Kadr” — teleturniej filmowy
19.30 Polska pieśń artystyczna — śpiewają Monika i Maria Olkisz
20.00 „Świat przedstawiony” — magazyn literacki
20.30 Teatr Howarda Barkera
20.50 „Punkt widzenia”
21.30 Panorama dnia
21.45 Bilans — rozmowa z wicepremierem Leszkiem Balcerowiczem
22.00 „W labiryncie” — serial TP
22.30 Sport
22.40 „997” — kronika kryminalna
23.40 CNN — Headline News

## CZWARTEK, 27.06.1991 r.

### PROGRAM I

8.00 „Dzień dobry”
9.00 Wiadomości poranne
9.10 Kino Teleferii — „Janka” (1 i 2) — serial pol.-niem.
10.35 „Po sześćdziesiątce” — mag. dla wszystkich
10.55 „Bergerac” (5) — serial ang.
11.45 Aktualności telegazety
17.00 Program dnia
17.05 „Video-Top”
17.15 Teleexpress
17.30 Prawo prawa, czyli prawo w knajpie
17.45 „Podróże na Kresy”
18.10 Klinika zdrowego człowieka — Pierwsza pomoc
18.50 Magazyn Katolicki
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 „Bergerac” (5) — serial ang.
21.00 „Pegaz”
21.30 Publicystyka
21.45 Wiadomości wieczorne
22.00 Opole '91 — Rock Opole

### PROGRAM II

7.55 Powitanie
8.00 CNN — Headline News
8.10 Jezyk niemiecki (23)
8.40 „W labiryncie” (powt.) — serial TP
9.10 Teleklinika dr. Anatolija Kaszpirowskiego
9.20 Mag. TV śniadaniowej
10.00 CNN — Headline News
10.15—16.45 Przerwa
16.45 Powitanie
17.00 Teleklinika dr. Anatolija Kaszpirowskiego
17.10 Program muzyczny
17.30 Magazyn ekologiczny
18.00 Program lokalny
18.30 „Cudowne lata” — serial USA
19.00 Magazyn „102”
19.30 „Z ziemi polskiej” — „Polskie ślady pod Piniorami”
20.00 Studio Sport
21.00 „Ekspres reporterów”
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 Studio Teatralne „Dwójki”: J. Andrzejewski — „Już prawie nic”
23.10 CNN — Headline News

**АЛЕСЬ ЧОБАТ**

### ПАДРОБКА

### ПАД ЯНА КАЗІМІРА ПАШКЕВІЧА

Полска квітнець „выбаровай“
Літва квітнець цэнай новай
там у Полсцы гарэш сееш
тут у Літве вар'яцееш
там нямчын пазыку даець
тут усё мытнік збіраець
тут над людэм стаяць дзеды
там не знаём гэтай беды
там распуста і сваволя
тут спакой і пуста доля
весяліся ж ты русіне
тва слава нікгды не згіне.

### ПРА АДНО

*З савецкай лірыкі...*

Адзічэлы ля хутара сад.
Белы колер пануе ізноў.
Пазірае гісторык назад.
А паэт не шкадуе слоў.

Дзед стары заматаў галавой.
Піянерскі запал і узрост.
Трактар песняй гудзе баявой.
Партызаны мініруюць мост.

Птушкай хочацца мне палящець.
Пазірае гісторык назад.
Абы толькі чаго захацець.
Не схаваецца вораг і гад.

Пазірае палітык арлом.
Партызаны патрэбныя зноў.
А па Нёмане прэ крыгалом.
А паэт не шкадуе слоў.






*Мал. Адама Сяменчыка.*

**Матчыны апавяданні**

### БАБЫ І ЛЮДЗІ

У Пугачове калісь бабы раз на год называліся людзьмі — як ішлі жыта жаць. Так і казалі: „Ужо людзі пайшлі жаці“. А ў астатні час на іх казалі „бабы“. — „Бабы пайшлі грабсці“. „Бабы пайшлі ў царкву“.

### ПАРАСЯ НА СЕДАЛЕ

Купіў чалавек курыцу і думае, дзе яе пасадзіць. Пасадзіў на седала.

Пасля купіў парася. І таксама думае, дзе яго пасадзіць. Пасадзіў на седала, кажа: „Цапайся, цапайся. Курыца на дзвюх нагах, а ты на чатырох не можаш“.

### ЯК БУДЗЕ ХУТЧЭЙ

Ехаў у горад гаспадар, а жонка гаворыць:

— Ты еш боршч, а я кашу, усё будзе хутчэй.

Выйшлі ў двор, а гаспадар, не запрагаючы, сядае на каня і кажа.

— Ты едзь на возе, а я на кані, усё будзе хутчэй.

### ЧЫЕ ДЗЕЦІ

— Дзядзьку Васіль, чые гэта дзеці бавяцца? — пытае маці ў суседа.

— Як мурзатыя, то мае.

— Вы іх у твар не ведаеце? Колькі ж іх у вас?

— А хто яго знае. Як станууць зранку лезці на печ, то да вечара лезуць.

### НЕ ТУДЫ КОЛЮЦЬ

Дзед Хведар прыйшоў дадому ад доктара і кажа:

— Колюць, колюць гэтыя ўколы, а нага ўсё адно баліць.

— Бо колюць у сцягно. Каб калолі ў нагу, то вылечылі б, — адказала баба Матруна.

### ПАЧАКАЕ

Дзед бабе: „Хутчэй давай абед — на поезд спазнюся“.

Баба: „Захоча зарабіць — пачакае“.

### ЦЁЦЯ-ДЗЯДЗЯ

Сядзіць маці на лавачцы з трохгадовай праўнучкай і пытае:

— Оля, хто гэта ідзе?

— Дзядзя.

— А гэта хто ідзе?

— Цёця.

— А вунь там хто ідзе? — паказвае на жанчыну ў штанах.

— Цёця-дзядзя, — адказвае праўнучка.

**Аляксей Гардзіцкі**

### УКАЗ АБ РАЗВЕСЯЛЕННІ

У сувязі з тым, што Усесаюзны рэферэндум выявіў гатоўнасць грамадзян весяліцца толькі ў абноўленым Саюзе,

пастанаўляю:

1. Саюз абнавіць, падмаляваць і падрыхтаваць да развесялення.
2. Для размяшчэння развесялляльных устаноў выкарыстаць вызваленыя ад тавараў магазіны.
3. Адмяніць цэнзуру развесялляльных праграм. Строгіх цэнзараў падмяніць вясёлымі рэдактарамі і даць ім, неабмежаваныя да смешнага, правы.
4. Забараніць, як не адпавядаючыя патрабаванням часу, тэлевізійныя перадачы „До и после полуночи“, „Пятое колесо“, газету „Аргументы и факты“ і ўсе іншыя незалежныя выданні.
5. Забяспечыць працоўных замест чырвонай ікры — чырвонымі сцягамі, замест чорнай ікры — чорнымі суботамі.
6. Улічваючы, што чарговае павышэнне цэн выклікала масавыя прыступы смеху, даваць грамадзянам магчымасць часцей смяяцца.
7. Усімі сіламі падтрымоўваць мерапрыемствы ў заалагічных парках культуры і адпачынку, каб грамадзяне, паглядаючы на клеткі, бачылі, наколькі лепш яны жывуць за іншых.
8. Мясцовым уладам прааўляць асаблівую ўвагу да ветэранаў працы і зарплаты, уступаючы ім лепшыя месцы ў грамадскім транспарце і на могілках.
9. Асоб, якія смяюцца з'едліва, пераводзіць з развесялляльных устаноў у папраўчыя; тых, хто смяецца нервова — у псіхіятрычныя ўстановы.
10. Ільвіную долю даходаў ад развесялення, у тым ліку і ў хаце, пералічваць у фонд дзяржавы.
11. Дзяржаўным львом назначыць міністра фінансаў СССР.
12. Пралетарыі ўсіх краін развесяляйцеся!

Рэферэнт
**Валянцін Травянка**
**(„Блін“)**

### АНЕКДОТЫ АД ЧЫТАЧОЎ

Да жанчыны, якая адзінока загарае на пляжы, падкатваецца мужчына:

— Прабачце, але вы неяк дзіўна адпачываеце! Увесь час адна... Пойдзем да мяне ў нумар! Павесялімся, вып'ем, закусім, каханнем можам заняцца...

— Вы кім працуеце? — перапытвае жанчына.

— Токарам.

— Ну, дык уявіце: цэлы год вы не адыходзілі ад свайго станка, прыехалі на поўдзень, а тут па ўсяму пляжу станкі, станкі, станкі...

* * *

Амерыканец і рускі спрачаюцца, у каго ў краіне тавары больш якасныя. Амерыканец кажа: „Вось у нас мужык вываліўся з акна на дваццаць сёмым паверсе, зачапіўся ў метры ад зямлі падцяжкай за выступ... і не разбіўся, і падцяжкі цэлыя...“

Рускі кажа: „Гэта глупства! У нас адзін стары зваліўся з пятага паверха. Сам ушчэнт, а галошы — як новенькія!..“.

**„Советская молодёжь“**
*Пераклаў В. Бабей*




*Мал. П. Козіча („Вожык“).*



**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палопская (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар).

„Niwa“, ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

I. Prenumerata pocztowa
1. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na IV kwartał 1991 r. upływa 20 sierpnia 1991 r.
2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13.000 zł + 6.500 zł za doręczenie. Od lipca 1 egz. kosztować będzie 1.000 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.

Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1000 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
— czerwiec — 9.000 zł.
— lipiec — 8.000 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26.000 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok. 5021-3203-132.

Zam. 554/91.

### ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ

**Папа рымскі ў Беластоку ● Конкурс на лепшага настаўніка беларускай мовы ● Вуліца Францішка Скарыны ў Бельску ● Прамова Васіля Быкава на кангрэсе беларусістаў ● Выйшаў першы нумар „Нашай нівы“ ● Пасля беластоцкіх спектакляў Тэатра імя Янкі Купалы ● Белавежскія зубры едуць у Францыю.**